УДК 821.161.3.09
ББК 83.3(4Беи)
Ч-11

ISBN 978-985-7180-46-2



## Лёс юнака са слонімскай вёскі

Цяпер пра дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, грамадска-палітычнага дзеяча ў Канадзе, выдаўца і публіцыста Рыгора Акулевіча (1907–1974) на Слонімшчыне і ў Беларусі амаль забыліся, і яго зусім не згадваюць. А ў 1920-х гадах імя Рыгора Акулевіча не сыходзіла з вуснаў слонімскай вясковай моладзі.

Нарадзіўся Рыгор Акулевіч у вёсцы Вялікая Кракотка Слонімскага павета ў звычайнай сялянскай сям'і. Сям'я была вялікая: Рыгор меў яшчэ некалькі родных і шмат стрыечных братоў. Амаль усе яны прымалі актыўны ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху ў Заходняй Беларусі. Некалькі братоў Акулевічаў не вярнуліся дамоў з Другой сусветнай вайны.

У 1926 годзе ў вёсцы Вялікая Кракотка, як і па ўсёй Заходняй Беларусі, была створана ячэйка КПЗБ. У яе ўваходзілі толькі тры чалавекі: Рыгор Акулевіч, Сцяпан Філітовіч і Сцяпан Ігнатовіч. У гэты самы год вясковыя хлопцы арганізоўваюць і гурток Беларускай рабоча-сялянскай грамады. Старшынёй гуртка быў абраны Сцяпан Філітовіч, а сакрата-



• *Сябры ТБШ вёскі Вялікая Кракотка Слонімскага павета. Рыгора Акулевіча на здымку няма. 1930-я гг.*



• *Рыгор Акулевіч*

ром — Рыгор Акулевіч. Неўзабаве вяскоўцы ствараюць Таварыства беларускай школы (ТБШ). Да іх далучыліся дзясяткі хлопцаў і дзяўчат не толькі з вёскі Вялікая Кракотка, але і з суседніх вёсак і хутароў. Вясковая моладзь распачынае самую актыўную дзейнасць на ніве культурна-асветнай працы на вёсцы. Юнакі і дзяўчаты патрабуюць ад польскіх уладаў адкрыцця беларускіх школ, выдання газет і часопісаў на роднай мове, адкрыцця беларускіх народных дамоў і г. д.

У 1927 годзе вясковая моладзь у Вялікай Кракотцы вырашыла адкрыць бібліятэку імя Янкі Купалы. Сваю працу яна пачала з таго, што сабрала сярод насельніцтва кнігі і грошы на набыццё літаратуры і інвентару. Знайшлося для культурнай установы і памяшканне — хата Данілы Грасевіча, які не вярнуўся з бежанства. На заклік вялікакракоцкіх сялян адгукнуліся і жыхары суседніх вёсак Рудаўка і Малая Кракотка. Бібліятэкарам на грамадскіх пачатках працаваў брат Рыгора Акулевіча Сямён Акулевіч. Спачатку ў бібліятэцы было каля трыццаці кніг. У асноўным гэта былі творы для вясковых драмгурткоў. Энтузіясты культурнай работы працягвалі збіраць у насельніцтва кнігі і грошы на набыццё літаратуры. Таму кніжны фонд увесь час папаўняўся. У канцы 1928 года бібліятэка налічвала каля адной тысячы назваў беларускіх, рускіх і польскіх кніг і каля двухсот чытачоў. Кракоцкая моладзь з Віленскай беларускай гімназіі, сярод якой быў паэт Валянцін Таўлай, закупіла і прывезла сотні кніг рускай і беларускай класікі. Бібліятэка імя Янкі Купалы зрабілася першай культурнай установай у Заходняй Беларусі, якой было нададзена імя песняра беларускага народа.

Але польскія ўлады пільна сачылі за беларускім рухам на вёсцы, асабліва за вясковымі актывістамі. Найперш пад пільным вокам паліцыі быў Рыгор Акулевіч. Сябры папярэдзілі, што яго ў любы час могуць арыштаваць і пасадзіць за краты. Таму ён праз знаёмых дамовіўся пра тое, каб пакінуць Слонімшчыну і Заходнюю Беларусь і эміграваць. Хутка Рыгор выязджае ў Канаду. Гэта адбылося ў 1928 годзе, калі юнаку быў толькі 21 год.





• *Аляксандр Акулевіч — родны брат Рыгора Акулевіча. Загінуў на фронце ў 1941 г.*

У Канадзе Рыгор Акулевіч, маючы нейкі вопыт арганізатара, «не спіць у шапку». Ён актыўна далучаецца да эмігрантаў, у асноўным да тых, якія прыехалі з Заходняй Беларусі, Украіны, Расіі. 5 сакавіка 1930 года ў Таронта ў бібліятэцы ўкраінскага рабочага дома адбыўся сход рабочых з мэтай стварэння самастойнай рабочай арганізацыі ў Канадзе. На сходзе з дакладам выступае Рыгор Акулевіч, і прысутныя ствараюць разам Рускі рабочы клуб (РРК) імя Максіма Горкага. Адным з кіраўнікоў клуба эмігранты аднагалосна выбіраюць Рыгора Акулевіча. Спачатку ў клуб уваходзіла 56 чалавек, але потым гэтая ідэя была падхоплена па ўсёй Канадзе, і неўзабаве паўсталя яшчэ 5 падобных клубаў. У канцы 1930 года ў Таронта сябры рабочых клубаў правялі свой першы з’езд. На з’ездзе было вырашана выдаваць на рускай мове сваю газету ў Канадзе, якую назвалі «Канадский гудок». У яе нумарах былі рэзка акрэслены прасавецкія і камуністычныя пазіцыі газеты ў духу таго часу. У першых нумарах «Канадского гудка» друкаваўся і «Беларускі куток» на беларускай мове. Але ён хутка знік, таму што многія беларусы Канады газету і падобны куток проста ігнаравалі. Былы старшыня Рады БНР на эміграцыі Вінцэнт Жук-Грышкевіч (1903–1989) у газеце «Беларус» у 1968 годзе пісаў: «У “Канадским гудку” Акулевіч друкаваў у пяцёх нумарах “беларускі куток” (відаць, жывое яшчэ было ў яго беларускае сумленне грамадаўца), але закінуў яго быццам таму, што не было зацікаўлення ў чытачоў. Наіўнае апраўданне. Напэўна перамагла тут партыйная лінія, бо ж якраз тады ў БССР пачалося змаганне з нацдэмаўшчынай і траўля ўсяго беларускага, якая перанесена была й на эміграцыю. Курс русіфікацыі ў Беларусі стаўся ўзорам і для русіфікацыі эміграцыі».

Рух рабочых клубаў у Канадзе пашыраўся. А з 1933 года клубы называліся ўжо Рускімі рабоча-фермерскімі клубамі (РРФК) імя Максіма Горкага. У 1934 годзе іх у Канадзе ўжо дзейнічала 47. Сябры клубаў дапамагалі страйкаваму руху, стваралі рускія школы, ваявалі ў Іспаніі.

Калі пачалася Другая сусветная вайна, актывісты рускіх клубаў вырашылі дапамагаць сваёй радзіме — СССР. Яны арганізавалі камітэты дапамогі. Першы камітэт з’явіўся ў Манрэалі 17 ліпеня 1941 года. Сярод яго лідараў і арганізатараў быў Рыгор Акулевіч. Хутка замест «Канадского гудка» стала выходзіць газета «Вестник», якую ён узначальваў.

У траўні 1942 года ў Таронта была заснавана Федэрацыя рускіх канадцаў (ФРК). Нацыянальным сакратаром ФРК быў абраны Рыгор Акулевіч. Галоўнай справай гэтай федэрацыі стала кампанія збору сродкаў для СССР у барацьбе з фашызмам. У 1942 годзе рускія канадцы сабралі больш за 7 мільёнаў долараў дапамогі, закупілі тысячу шпітальных ложкаў з поўным камплектам бялізны.

Многія сябры ФРК запісваліся добраахвотнікамі ў канадскі армейскі корпус. Сярод іх быў і Рыгор Акулевіч. На фронце яго цяжка параніла. Летам 1945 года ён вярнуўся ў Канаду. З яго ініцыятывы галоўнае праўленне ФРК закупіла дзве тысячы наручных швейцарскіх гадзіннікаў у падарунак медыцынскім работнікам Чырвонай Арміі. А ў 1947 годзе ФРК накіравала ў Мінск 4 камплекты рэнтгенаўскіх апаратаў: адзін для ўніверсітэцкай клінікі і тры на ўласнае размеркаванне Міністэрства аховы здароўя БССР. Таксама былі накіраваны на Беларусь 9 рэнтгенаўскіх апаратаў. Атрымалі калгасныя кузні Беларусі і Украіны і 150 скрынак кавальскага абсталявання.

У снежні 1946 года Рыгор Акулевіч быў абраны прадстаўнікам ФРК у славянскую дэлегацыю Канады на Сусветным славянскім кангрэсе ў Белградзе. У рамках праграмы кангрэса яму пашанцавала наведаць Бацькаўшчыну. 18 гадоў ён не быў на Радзіме. Таму ехаў сюды з вялікім хваляваннем і радасцю. Ён прыехаў у родную Вялікую Кракотку, спаткаўся са сваімі сябрамі, сваякамі, але шмат родных і сяброў убачыць ужо не ўдалося, бо яны загінулі на вайне або былі рэпрэсаваны. Пра сваю паездку на Бацькаўшчыну Рыгор Акулевіч напісаў вялікі матэрыял, які апублікаваў у некалькіх нумарах у канадскай газеце «Вестник».

28 кастрычніка 1974 года Рыгора Акулевіча не стала. «Вестник» пісаў, што «ФРК не толькі асірацела, яна пазбавілася сваёй душы».

Пры жыцці Рыгор Акулевіч выдаў на эміграцыі кнігі «Рускія ў Канадзе» (Таронта, 1952) і «50 год Беларускай рэспублікі» (Таронта, 1968).

Вось такім аказаўся лёс юнака з заходнебеларускай вёскі Вялікая Кракотка Слонімскага павета. І яшчэ. У 1968 годзе, калі Згуртаванне



беларусаў Канады адзначала сваё 20-годдзе, на юбілейнае мерапрыемства былі заказаны запрашальныя білеты ў адной з прыватных друкарняў Таронта. Калі прыехаў забіраць запрашэнні архіепіскап, Мітрапаліт Беларускае аўтакефальнае праваслаўнае царквы, рэлігійны і грамадскі беларускі дзеяч уладыка Мікалай, гаспадар друкарні папрасіў прабачэння і сказаў, што адно запрашэнне ўзяў беларус са старой эміграцыі. «Акулевіч?» — спытаўся ўладыка. «Але, ён. А скуль вы ведаеце?» — зацікавіўся друкар. «Ведаю. Ну, што ж, узяў то ўзяў…» — адказаў уладыка Мікалай, забраў заказ і паехаў.

## Гальяш Леўчык і беларуская моладзь Варшавы

Гэтаму фотаздымку больш за 100 гадоў. Магчыма, ён быў зроблены на летніку Уладзіслава Сталыгвы ў 1912 годзе. Гэты летнік знаходзіўся ў Ажарове недалёка ад Варшавы (цяпер *Ożarów Mazowiecki*). Туды амаль штотыдзень прыязджалі беларусы, якія вучыліся і жылі ў Варшаве. Свае сустрэчы ў Сталыгваў беларускія юнакі і дзяўчаты называлі гуртком беларускай моладзі. Фактычна гэта і быў першы гурток беларусаў у Варшаве пачатку XX стагоддзя, б ў Варшаўскім універсітэце першыя беларускія студэнцкія гурткі з’явіліся толькі ў 1913–1915 гадах. Да таго



ж гэтыя гурткі былі больш асабістыя і насілі чыста таварыскі характар, ды і вынікі іх працы былі невялікія. Гэта ўжо пазней у Варшаве арганізоўваецца Беларускі камітэт, які пачаў сур'ёзна пашыраць нацыянальную самасвядомасць сярод беларусаў.

Давайце вернемся ў 1912 год, калі быў зроблены гэты прыгожы здымак. На ім стаяць злева направа Віктар Галаўня, Вітольд Віславух, Рамуальд Зямкевіч, Лявон Вітан-Дубейкаўскі, Францішак Віславух, Альбін Яхандовіч, Людвік Славінскі, Гальяш Леўчык. Сядзяць злева направа Ванда Кандрацкая, Марыя Сталыгва, Марыя Залеская, Уладзіслаў Сталыгва, Язэп Гапановіч. На падлозе сядзяць дзеці Уладзіслава і Марыі Сталыгваў — Паўлінак, Маня і Геня.

Як склаўся лёс маладых людзей з гуртка беларускай моладзі? Пра адных звесткі ёсць, пра іншых — даволі мала. Але вядома адно, што падчас сваіх сустрэч гэтыя беларусы шмат гутарылі пра родную мову, літаратуру, культуру, адукацыю, пра тыя падзеі, якія адбываліся вакол іх. Аб'яднаць беларусаў у Варшаве ў той час вельмі клапаціўся Гальяш Леўчык (1880–1943).



• *Гальяш Леўчык*

Гальяш Леўчык у Варшаву трапіў у 1904 годзе. Ён прыехаў са Слоніма, уладкаваўся на працу чарцёжнікам у гарадскі магістрат і наведваў лекцыі ў школе мастацтваў. За гэты час Леўчык знаходзіць у Варшаве шмат беларусаў, знаёміцца з імі, арганізоўвае сустрэчы, ладзіць вечарыны.

Жывучы ў Варшаве, Гальяш Леўчык сабраў вялікую і каштоўную бібліятэку, калекцыянаваў усё беларускае: кнігі, паштоўкі, творы мастацтва, музычныя інструменты, значкі, фотаздымкі. На жаль, у гады Другой сусветнай вайны ўсё гэта бясследна прапала. Але гэта было пазней. А тады кожнаму беларусу Варшавы і беларусам, якія прыязджалі туды, Гальяш Леўчык з радасцю паказваў сваю калекцыю, дапамагаў матэрыяламі ў напісанні той ці іншай працы. Тады ў Варшаве жыў і яшчэ адзін беларускі калекцыянер кніг і рукапісаў — Рамуальд Зямкевіч (1881–1944). Ён быў нават больш заўзятым калекцыянерам і



бібліяфілам, чым Леўчык. Кажуць, што Зямкевіч не прапускаў ніводнай старой беларускай кніжкі, асабліва калі яна «дрэнна ляжала». У выніку ён сабраў найвялікшую калекцыю рарытэтаў, але, на жаль, і яго калекцыя ўся згарэла ў гады Другой сусветнай вайны. Добра, што Рамуальд Зямкевіч хоць паспеў апублікаваць некаторыя рукапісы ў друку. Не ведаю толькі, як яны мірыліся і сябравалі — два калекцыянеры, два вялікія аматары беларускіх кніг — Рамуальд Зямкевіч і Гальяш Леўчык…

Найбольш багатымі сярод усіх гэтых беларусаў, змешчаных на здымку, былі Сталыгвы. Летнік у Ажарове ім праектаваў архітэктар Лявон Вітан-Дубейкаўскі (1869–1940). Архітэктар атрымаў добрую адукацыю, ён вучыўся ў Пецярбургу і ў Парыжы, меў дыплом архітэктара-мастака. У Варшаве Лявон Вітан-Дубейкаўскі жыў з 1910 года. Выкладаў будаўнічую справу ў Варшаўскай сярэдняй прамыслова-тэхналагічнай вучэльні інжынера Пятроўскага, а таксама стварыў уласную праектную фірму па будаўніцтве прамысловых будынкаў і жылых дамоў. Шчыра сябраваў з многімі беларусамі, у тым ліку і з Уладзіславам Сталыгвам.

Пра Уладзіслава Сталыгву звестак захавалася мала. Ды і ніхто пра яго грунтоўна так і не напісаў. У адным з дакументаў-успамінаў Зоські Верас, датаваным 4 ліпеня 1985 года, які захоўваецца ў маім уласным архіве, напісана, што Уладзіслаў Сталыгва быў родам з Віцебшчыны. Сям'я заўсёды захоўвала беларускія традыцыі. Напрыклад, як прыгадвала Зоська Верас, на Запускі іх частавалі беларускімі нацыянальнымі стравамі, такімі як верашчака, стояны кісель і інш. Гэта былі менавіта 1912–1915 гады.

У траўні 1906 года ў Пецярбургу была створана выдавецкая суполка «Загляне сонца і ў наша аконца». Ва ўправу выдавецтва ўваходзіў і Уладзіслаў Сталыгва. Выдавецкую дзейнасць спыніла Першая сусветная вайна. Але сям'я Сталыгваў ужо ў 1910 годзе пакінула Пецярбург і пераехала ў Варшаву.

З Варшавы Сталыгвы перабраліся ў Вільню. А ў сакавіку 1915 года Віленская губернская ўправа па справах аб'яднанняў зацвердзіла статут Беларускага таварыства па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны. І таварыства пачало працаваць. Старшынёй таварыства стаў Вацлаў Іваноўскі, а адным з сяброў таварыства быў Уладзіслаў Сталыгва. Пазней ён увойдзе і ў Беларускі нацыянальны камісарыят, які падтрымае Беларускую Народную Рэспубліку.

У 1920-х гадах, як прыгадвае Зоська Верас, сям'я Сталыгваў жыла ў Вільні. Але ад беларускасці яны адышлі, таму «спатыкацца з імі не было ахвоты».

Пра Віктара Галаўню звестак захавалася мала. Вядома толькі, што ён быў шчырым беларусам, прымаў удзел у самых розных мерапрыемствах, якія праводзілі студэнты-беларусы Варшаўскага ўніверсітэта. Застаюцца невядомымі лёсы Альбіна Яхандовіча, Ванды Кандрацкай і Марыі Залескай. Калі шукаць звесткі пра Ванду Кандрацкую, то яна пісалася і Ванда Авуля-Кандрацкая, а пазней і Ванда Ястшэмбская.

Прафесар Мікола Хаўстовіч у сваёй кнізе «Даследаванні і матэрыялы: літаратура Беларусі XIX–XX стагоддзяў» (Варшава, 2017. С. 211) апублікаваў ліст 1912 года Рамуальда Зямкевіча да Аляксандра Ельскага. У лісце Зямкевіч даслаў Ельскаму ў і фотаздымак, які сёння публікуецца. Гэты здымак даследчыкам даўно вядомы, але справа не ў гэтым, а ў тым, што Рамуальд Зямкевіч падпісаў усіх, хто знаходзіцца на фотаздымку. Сярод іх прысутнічае і Марыя Залеская. А вось гісторык Юры Туронак, пішучы пра Гальяша Леўчыка («Беларускі каляндар», Беласток, 1980), прыгадвае там Марылю Залеўскую. Таму паўстае пытанне: якое сапраўднае прозвішча было ў Марыі (Марылі) Залеская ці Залеўская?

Сярод сяброў Беларускага гуртка ў Варшаве ёсць і Язэп Гапановіч (1883–1961). Родам ён быў з Будслава. Перад Першай сусветнай вайной знаходзіўся ў Варшаве, з'яўляўся сябрам гуртка. Пасля Першай сусветнай вайны ці напярэдадні яе вярнуўся ў Будслаў, там прымаў удзел у беларускай кааперацыі. А потым зноў прыехаў у Варшаву, быў намеснікам старшыні Беларускага Нацыянальнага камітэта ў Варшаве. Пачаў займацца бізнесам, меў нават сваю ўласную цагельню. У другой палове 1930-х гадоў Язэп Гапановіч заснаваў і ўзначаліў Беларускае асветнае таварыства ў Варшаве. Ён шмат дапамагаў у Варшаве беларусам, прафінансаваў зборнік вершаў Станіслава Станкевіча «З майго ваконца», які выйшаў з друку ў Вільні ў 1928 годзе.

Пасля Другой сусветнай вайны Язэп Гапановіч жыў у Варшаве, прымаў удзел у Варшаўскім аддзеле Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ). Памёр 20 мая 1961 года.

Вітольд Віславух (1892–1984) і Францішак Віславух (1896–1978) — родныя браты. Іх бацькі Антон і Севярына Віславухі былі даволі адукаванымі людзьмі. Бацька займаўся гісторыяй, маці пісала вершы, любіла маляваць. Вітольд і Францішак нарадзіліся ў маёнтку Пырковічы Кобрынскага павета (цяпер Драгічынскі раён). Вітольд актыўна ўдзельнічаў у беларускіх арганізацыях Варшавы, ведаў некалькі замежных моў, працаваў выкладчыкам.



Францішак Віславух вучыўся ў Варшаўскай школе прыгожых мастацтваў, прымаў удзел у польска-савецкай вайне 1920 года, а таксама ў Другой сусветнай вайне. Пасля вайны пераехаў жыць у Лондан. Там і пражыў усё жыццё. Пісаў кнігі, а такія выданні, як *Opowiadania poleskie* (Лондан, 1968, Варшава, 1994), *Echa Polesia* (Лондан, 1979), *Na sciezkach Polesia* (Лондан, 1976), — гэта своеасаблівая малая энцыклапедыя Палесся 1930-х гадоў.

Сярод сяброў гуртка беларускай моладзі на здымку ёсць і Людвік Славінскі. Ён быў родам з Ружанаў. Пісаў вершы па-беларуску і па-польску. Дзіўна тое, што некалькі вершаў Людвіка Славінскага на беларускай і ў перакладзе з польскай мовы трапілі ў рукапісны зборнік Гальяша Леўчыка «Жаўранак беларускі». Гэты зборнік так і не выйшаў з друку, а яго машына-рукапісны варыянт знаходзіцца ў аўтара гэтай кнігі…

Здаецца, я прыгадаў усіх, хто адлюстраваны на гэтым старым фотаздымку, хто сто гадоў таму стараўся не згубіцца ў Варшаве і не страціць любоў да Бацькаўшчыны і да роднай мовы.

## Яе дапытваў асабіста Цанава

### Знаёмства

На могілках у вёсцы Яглевічы Івацэвіцкага раёна пахавана Еўдакія Антонаўна Казлова (сапраўднае прозвішча Козел). На надмагільным помніку так і напісана: «Казлова Еўдакія Антонаўна. 23.II.1917–8.IV.1983. Дарагой, каханай жонцы і мамачцы». У роднай вёсцы і ў суседніх з Яглевічамі вёсках Еўдакію Казлову людзі добра ведалі і памятаюць да сённяшніх дзён. Усё жыццё яна адпрацавала настаўніцай роднай мовы і літаратуры, атрымаўшы адукацыю ў канцы 1930-х гадоў у Вільні.

Сям'я ў бацькоў Дусі Козел была даволі вялікая — шасцёра дзяцей. Бацьку Антону Фёдаравічу Козелу дастаўся ў спадчыну ладны кавалак зямлі, але ён яе прадаў, каб за атрыманыя грошы вучыць дзяцей. Дуся нарадзілася ў бежанстве ў Самары. А калі бацькі вярнуліся на Бацькаўшчыну, дзяўчынка паступіла вучыцца ў Віленскую беларускую гімназію, якую ўзначальваў Радаслаў Астроўскі. Вучыцца было няпроста. Неяк дырэктар выклікаў Еўдакію да сябе ў кабінет і, ведаючы слабое матэрыяльнае забеспячэнне гімназісткі, спытаў, чаму яна не напісала прашэнне аб дапамозе. Дзяўчына прамаўчала.



• *Маладая Еўдакія Казлова. 1930-я гг.*

Яе любімым настаўнікам быў Хведар Ільяшэвіч. Любіла Дуся Казлова і заняткі, якія праводзілі Барыс Кіт, Габрыелія Касіньская, Станіслаў Глякоўскі, Вольга Русак, Алёна Лекант-Сакалова, Пётр Шчасны і іншыя выкладчыкі. З ёй на адным курсе вучыліся В. Дук, Б. Сладкоўскі, А. Таўлай, Ю. Чатырка, В. Першукевіч, В. Новік, А. Бразоўскі, М. Лётка, Ю. Мацук, Н. Макоўская, М. Друцька, А. Беласік, Я. Карэтнікава, Я. Бузук. Некаторыя з яе аднакурснікаў пасля заканчэння гімназіі адразу паступілі ў Віленскі ўніверсітэт. Напрыклад, Васіль Новік паступіў на матэматычны факультэт. Сюды паступіла і Еўдакія Казлова. Але ўсе планы гэтых шчырых беларусаў і перакрэсліла Другая





• *Вучні Віленскай беларускай гімназіі. Другая справа Еўдакія Казлова. 1937 г.*

сусветная вайна. Некаторыя, хто застаўся жыць, назаўсёды пакінулі Вільню і Беларусь, а іншыя трапілі ў сталінскія лагеры.

Еўдакія Казлова вярнулася дамоў. Спачатку працавала ў пачатковай школе ў Яглевічах, а потым — у Косаве. А калі родныя мясціны занялі немцы, дзяўчына зусім засталася без працы.

### У роднай вёсцы

У першыя месяцы вайны на ўскраіне Івацэвіч размясціўся лагер ваеннапалонных. Еўдакія Казлова разам з сяброўкамі збірала ў землякоў цёплае адзенне і харчаванне, а потым непрыкметна адносіла ўсё гэта за калючы дрот. А восенню 1941 года ёй нават удалося вывесці з лагера каля дваццаці палонных, сярод якіх быў і Сяргей Зорын.

Хутка ў тутэйшых лясах з'явіліся партызанскія атрады. Дуся стала сувязной. Яна сустракалася з тым самым Сяргеем Зорыным і пера-



• *Еўдакія Казлова (злева) з сяброўкай у Слоніме. 1943 г.*

давала яму ўсю інфармацыю пра немцаў і нямецкі гарнізон у Івацэвічах. А таксама прыносіла яму медыкаменты, перавязачныя матэрыялы, харчаванне. За дзяўчынай хутка пачалі сачыць немцы. І нават спланавалі засаду ў вёсцы Яблонцы. Праўда, івацэвіцкія падпольшчыкі пра гэта даведаліся, і ёй хутка паведамілі. Еўдакія Казлова неўзабаве пакінула родную вёску і пераехала ў Слонім. Там праз знаёмых ёй удалося ўладкавацца на працу ў Слонімскую прагімназію. Часам Дуся наведвала родную вёску і землякоў. З Яглевічаў у Слонім яна дабіралася цягнікамі — спачатку з Івацэвічаў да Баранавічаў, а потым з Баранавічаў да Слоніма. Аднойчы, набраўшы дома харчавання, дзяўчына ехала цягніком з Івацэвічаў у Баранавічы, каб адтуль другім цягніком прыехаць у Слонім. Калі яна села ў купэ, на яе звярнуў увагу адзін высокі мужчына: «Здаецца, Казлова?» Былога дырэктара Віленскай беларускай гімназіі Радаслава Астроўскага Еўдакія таксама пазнала. Астроўскі пацікавіўся, куды яна едзе. А даведаўшыся, запрапанаваў: «Кідай працу ў Слоніме і перавязджай у Менск. Я ствараю Беларускую цэнтральную раду. Будзеш працаваць у школьным аддзеле». Еўдакія Казлова шчыра падзякавала за прапанову і сказала, што над ёй падумае.

Прыехаўшы ў Слонім, Еўдакія хуценька сустрэлася з Іванам Міско (паэтам Анатолем Іверсам), якога даўно ведала асабіста. Яна расказала Івану Міско пра нечаканую сустрэчу і прапанову. Прапанова Івану Міско,





• *Слонімскія прыгажуні. У другім радзе пасярэдзіне Еўдакія Казлова. У першым радзе крайняя справа Ядвіга Сарачынская. Слонім, 1943 г.*

які ўзначальваў Слонімскую падпольную антыфашысцкую арганізацыю, спадабалася, тым больш што Іван Міско не любіў Астроўскага, які некалі выгнаў яго з Віленскай беларускай гімназіі. А цяпер тым больш і за тое, што пайшоў служыць да немцаў.

Іван Міско хутка распавёў навіну сакратару падпольнага Слонімскага райкама партыі Міхаілу Анішчыку. Той даў загад, каб Казлова неадкладна ехала ў Мінск і вяла ў Беларускай цэнтральнай радзе (БЦР) разведку.

### У Беларускай цэнтральнай радзе

Еўдакія Казлова спалохалася такой прапановы, але іншага выйсця ўжо не было. Яна напісала ліст Астроўскаму і хутка атрымала адказ — прыязджай. І дзяўчына паехала. Гэта было напрыканцы 1943 года. Па дарозе шмат думала, перажывала, хвалявалася. Але ў БЦР яе сустрэлі шчыра, выдалі часовае пасведчанне № 57. На ім было напісана, што Еўдакія Казлова працуе ў школьным аддзеле статыстам. Год нараджэння — 1920, месца нараджэння — г. Самара, нумар пашпарта АВ 25737.

Год нараджэння чамусьці напісаны памылкова, бо яна нарадзілася ў 1917 годзе.

Жыла дзяўчына на тэрыторыі БЦР. Натуральна, яна бачыла, што адбываецца там і вакол. Старалася ўсё запомніць. На сувязь да яе прыязджаў падпольшчык са Слоніма Мікалай Ціхан. Яму ўсё і дакладвала Казлова. А калі 27 чэрвеня 1944 года ў зале Мінскага гарадскога тэатра адбыўся Другі Усебеларускі кангрэс, Еўдакія Казлова дастала дакументы для некалькіх падпольшчыкаў, якія таксама пабывалі на гэтым кангрэсе. З БЦР дзяўчына перадавала падпольшчыкам пішучыя машынкі, паперу, сакрэтныя дакументы. Для сустрэчы з падпольшчыкамі і партызанамі яна нават сама прыязджала ў родную вёску Яглевічы да бацькоў, а адзін раз у вёсцы Размеркі Івацэвіцкага раёна сустракалася з Міхаілам Анішчыкам і Іванам Міско.

Разам з тым Еўдакія Казлова, карыстаючыся прыхільнасцю прэзідэнта БЦР Радаслава Астроўскага, садзейнічала адкрыццю беларускіх школ не толькі, напрыклад, у Косаўскім раёне, але і ў сумежных раёнах. У вёсцы Яглевічы настаўніцай пачатковай школы працавала яе малодшая сястра Кацярына Козел, якая вучыла дзетак чытаць і пісаць па-беларуску. І ёй на ніве беларускага школьніцтва шмат дапамагала Еўдакія.

### ***Вяртанне дамоў***

Калі немцы пачалі адступаць на Захад, з імі сабраліся ў далёкую дарогу і многія сябры БЦР. Яны селі ў цягнік і ехалі ў заходнім напрамку. Сярод работнікаў БЦР была і Еўдакія Казлова, якая па дарозе ўцякла з цягніка дамоў у родную вёску. Але ў першыя дні знаходжання дома Казловай прыйшлося перажыць шмат непрыемных момантаў. Аднойчы вечарам у іх хату забег сусед Аляксей Прымак і са злосцю закрычаў: «Прыехала ўсё-такі дамоў! Ах ты, нямецкая сука!..» Ён ускінуў вінтоўку. Маці з плачам засланіла сабой дачку, а бацька кінуўся да суседа. «Ты што, здурэў! — закрычаў ён на суседа. — Гэта такая падзяка за тое, што Дуся аднойчы выратавала табе жыццё…» Прымак апусціў вінтоўку…

І гэта быў не адзіны выпадак, калі вяскоўцы скоса глядзелі на сваю зямлячку. І нават адкрыта казалі, што яна немцам служыла. Не было спакойнага жыцця ёй і ў школе, куды яна пайшла працаваць адразу пасля вайны. Некаторыя настаўнікі ў вочы называлі жанчыну здрадніцай. Еўдакіі Антонаўне прыходзілася апраўдвацца перад настаўніцкім калектывам, казаць, што ў Мінску выконвала адказнае партыйнае заданне. Ёй казалі: калі выконвала заданне, то пакажы даведку. А даведкі не было.





Тады Еўдакія Казлова вырашыла звярнуцца па даведку-пацвярджэнне да сваіх слонімскіх сяброў-падпольшчыкаў. Калі былы камісар партызанскага атрада імя Дзяржынскага Ракасоўскай брыгады Іван Дабрыян і былы сакратар Слонімскага міжраённага антыфашысцкага камітэта Іван Міско напісалі, зацвердзілі ў натарыусаў і хутка даслалі пацвярджэнні, то былы сакратар Слонімскага падпольнага райкама партыі Міхаіл Анішчык просьбу Казловай выконваць не спяшаўся. Аказалася, што лягчэй здабыць у ворага інфармацыю разведвальнага характару, чым даведку аб падпольнай рабоце ў таго, хто пасылаў на гэтую работу. Зацкаваная настаўніца з вёскі Яглевічы не адзін раз ездзіла да Анішчыка з просьбай. Але ж ён пад рознымі надуманымі прычынамі адмаўляўся, не даваў дакумента. А Іван Міско ў сваім пацвярджэнні пісаў: «Я, Міско Іван Дарафеевіч, 1912 года нараджэння, былы сакратар Слонімскага міжраённага антыфашысцкага камітэта (даведка партархіва № 6578/н ад 16 кастрычніка 1965 года), пацвярджаю, што т. Казлова Еўдакія Антонаўна з верасня 1942 года была сябрам Слонімскай антыфашысцкай арганізацыі і гарадскога антыфашысцкага камітэта. Тав. Казлова Е. А. у лістападзе 1943 года сакратаром Слонімскага падпольнага райкама партыі т. Анішчыкам М. Т. была накіравана ў г. Мінск у Беларускую цэнтральную раду для правядзення там разведвальнай работы. Я, знаходзячыся ў партызанскім атрадзе ім. Дзяржынскага брыгады ім. Ракасоўскага, разам з т. Анішчыкам М. Т. адзін раз сустракаўся з т. Казловай Е. А. у вёсцы Размеркі Івацэвіцкага раёна ў красавіку 1944 года, куды яна прыязджала для сустрэчы з т. Анішчыкам М. Т. Мне вядома таксама, што т. Казлова Е. А. вярнулася ў Слонім з Мінска пасля яго вызвалення ў ліпені 1944 года. Былы сакратар Слонімскага міжраённага антыфашысцкага камітэта І. Д. Міско. 8 снежня 1968 года».

Аднойчы Іван Міско сустрэў Еўдакію Казлову ў Слоніме. Жанчына шчыра павіталася і была нечым задаволена. Іван Міско спытаўся:

— Пэўна, у школе адчапіліся ад цябе?

— Даў Анішчык нумар вайсковай часці, куды перадаваліся па рацыі мае разведдадзеныя.

— Злітаваўся?

— Нічога дарма не робіцца, — дыпламатычна ўсміхнулася Еўдакія Антонаўна. — Праўда, даведку на рукі я не атрымала, яе даслалі ў райана. І адтуль ужо прыйшла каманда ў школу, каб спынілі праследаванне…

Гэты факт прыгадваецца ў кнізе Анатоля Іверса «З глыбінь жыцця» (Мінск, 2012. С. 170). Пасля ўсіх дасланых пацвярджэнняў ніхто больш Еўдакію Казлову ні ў чым не папракаў. Яна спакойна працавала настаўніцай роднай мовы, яе як ветэрана вайны запрашалі на сустрэчы, да яе пісалі лісты з розных куткоў Беларусі настаўнікі, вучні, сябры, выкладчыкі ВНУ, простыя людзі. У маім хатнім архіве захоўваецца ксеракопія ліста беларускага літаратуразнаўцы Уладзіміра Калесніка да Еўдакіі Казловай, які быў напісаны 7 снежня 1964 года і дасланы ёй з Брэста. Уладзімір Калеснік тады пісаў: «Глыбокапаважаная Еўдакія Антонаўна! Да Вас звяртаецца літаратурны крытык Уладзімір Андрэевіч Калеснік. На працягу шэрагу год я займаюся даследаваннем літаратуры Заходняй Беларусі, апублікаваў кнігі “Паэзія змагання“ і “Час і песні”, і шэраг артыкулаў. Зараз пішу дакументальную аповесць пра Валянціна Таўлая. Пачатак яе апублікаваны ў часопісе “Полымя”, нумар 10 за гэты год. Ад Анатоля Іверса я даведаўся, што Вам давялося ў часе вайны супрацоўнічаць з Валянцінам Таўлаем як сувязной партызан. Вельмі быў бы ўдзячны, каб Вы расказалі мне пра свае сустрэчы з Таўлаем. Мне хочацца паказаць у кнізе не толькі Таўлая, але і яго сяброў, людзей, якія дапамагалі яму дзейнічаць, змагацца. Я працую заг. кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага пэдінстытута. Мой службовы адрас: г. Брэст, вул. Савецкая, 8, дацэнту Калесніку… Чакаю ад Вас пісьма. Буду вельмі рады, калі Вы, знаходзячыся ў Брэсце, дасце знаць і зойдзеце да мяне. З прывітаннем Ул. Калеснік».



### *У першыя пасляваенныя гады*

Цяпер вернемся ў першыя пасляваенныя гады. Еўдакія Казлова прыехала дамоў, стала працаваць настаўніцай. У 1946 годзе яе арыштоўваюць супрацоўнікі МДБ і прывозяць у Мінск. Дапытаць Казлову вырашыў сам міністр дзяржбяспекі БССР Цанава. Пасля некалькіх сустрэч з Цанавам Еўдакію Казлову выпусцілі на волю. Нават цяжка прыгадаць яшчэ выпадкі, каго пасля сустрэч з Цанавам выпускалі дамоў, а не адпраўлялі ў ГУЛАГ ці проста расстрэльвалі. Еўдакія Казлова не трапіла ў ГУЛАГ, а апынулася на свабодзе. І тут прыгадваецца адзін факт з ліста Ларысы Геніюш да Часлава Найдзюка. 27 ліпеня 1947 года беларуская паэтка пісала яму з Прагі: «“Акцыю” на беларусаў у Празе праводзіла Казлова з Слоніма — член ведамай Вам жудаснай установы (пры помачы беларусаў тутэйшых)…» (Ларыса Геніюш. Каб вы ведалі… Мінск, 2005. С. 14). З гэтага вынікае, што былую студэнтку Віленскай беларускай гімназіі завербавала савецкая дзяржбяспека вылоўліваць беларускіх патрыётаў у Чэхіі ў другой палове 1940-х гадоў. Хаця стопрацэнтных доказаў на гэта няма. Усе кропкі над «і» можна будзе паставіць толькі тады, калі будуць адкрыты архівы КДБ.

І яшчэ. Калі Еўдакія Казлова падчас вайны працавала настаўніцай у Слонімскай прагімназіі, яна пазнаёмілася з Рыгорам Зыбайлам (1913–1987). Так-так, з тым самым Рыгорам Зыбайлам — сябрам ЦК Беларускай незалежніцкай партыі, удзельнікам Першага штурмавога звязу, афіцэрам Беларускай краёвай абароны, намеснікам старшыні Беларускай самапомачы, удзельнікам дэсантнага батальёна «Дальвіц»... Падчас вайны ён знаходзіўся ў Слоніме і працаваў на пасадзе старшыні акруговага камітэта БНС. У Казловай і Зыбайлы ўзнікла каханне, і маладыя марылі пра сямейнае жыццё. На адным са сваіх здымкаў, падараваных Казловай, Рыгор па-беларуску напісаў: «Дарагой Дусі на памяць з часоў супольнай працы ў Слоніме. Ад Рыгора, Слонім, 1943 г.».



• *Рыгор Зыбайла — муж Еўдакіі Казловай. 1968 г.*

Але пасля вайны Рыгор Зыбайла быў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў лагераў. А калі ён вярнуўся дамоў, то зноў спаткаўся з Еўдакіяй і яны пажаніліся. І разам пражылі да самай смерці. Рыгор Зыбайла быў другім мужам Еўдакіі Казловай. Зыбайла і Казлова пахаваны побач на могілках у вёсцы Яглевічы на Івацэвіччыне.

### *Замест пастскрыптума*

У пісьменніка Уладзіміра Ягоўдзіка, які тады працаваў на Брэсцкім тэлебачанні, захоўваецца пісьмо ад Івана Міско (Анатоля Іверса) ад 24 жніўня 1982 года. У пісьме былы слонімскі падпольшчык прасіў: «У вёсцы Яглевічы Івацэвіцкага раёна жыве мая добрая знаёмая, былая настаўніца, пенсіянерка і былая падпольшчыца Слонімскай антыфашысцкай арганізацыі Еўдакія Антонаўна Казлова. Яна страшэнна хворая і не выходзіць з маёй галавы. Можа, будзеш у Івацэвічах (вёска ў 3 км), напішы пра яе ў газету, хай парадуецца, пакуль жывая. Перадасі ад мяне прывітанне».

## Шляхі і краты Валянціна Таўлая

Вёска Рудаўка на Слонімшчыне — адна з аддаленых вёсак раёна. Ад Слоніма да Рудаўкі — 30 кіламетраў. Ніхто ніколі пра Рудаўку не згадаў бы, калі б там не прайшлі дзіцячыя і юначыя гады беларускага паэта, літаратуразнаўца, заходнебеларускага дзеяча Валянціна Таўлая (1914–1947).



• *Бацька Валянціна Таўлая*

З Рудаўкі быў родам бацька Валянціна Таўлая Павел Дзям'янавіч. Таму сям'я шмат гадоў жыла на радзіме бацькі. Адсюль Валянцін паступіў у Слонімскую настаўніцкую семінарыю, з якой яго ў 1925 годзе выключылі, бо адмовіўся юнак пісацца палякам.

У 1927 годзе паступіў у трэці клас Віленскай беларускай гімназіі. Але праз год яго выключаюць і з гэтай навучальнай ўстановы за ўдзел у вучнёўскім страйку. Пад паліцэйскім



канвоем юнак быў выпраўлены да бацькоў у Рудаўку.



• *Валянцін Таўлай з маці, бацькам і бабуляй. 1917 г.*

Так што Рудаўка для Валянціна Таўлая была і засталася роднаю вёскай назаўсёды. Сёння, праз шмат гадоў пасля таго, як не стала Валянціна Таўлая, захацелася паглядзець, як выглядае таўлаеўская Рудаўка? Таму вырашыў завітаць у гэту далёкую слонімскую вёску. Ехаў з нейкім настроем, радасцю, бо ехаў туды, дзе бегаў маленькі Валік Таўлай, дзе ён вучыўся, скуль яго бацька адвозіў на возе да станцыі Азярніца, каб на цягніку даехаць у Слонім, Гародню ці ў Вільню…

Калі б сёння ўбачыў Валянцін Таўлай родную Рудаўку — ён ад убачанага жахлівага малюнка вёскі проста мог бы заплакаць. Не паверыце, мужны Таўлай пусціў бы слязу. Бо ён не пазнаў бы родную, некалі вясёлую, шматлюдную вёску, якой яна была ў 1920–1950-х гадах. Вёска-вуліца страшэнна апусцела. Пустыя хаты, нібы людзі, просяцца, каб хтосьці зайшоў да іх, пратапіў печы, зашкліў бы вокны. Адна хата, другая, дзясятая… Усе пустыя, ніхто не жыве. Раптам з адной з іх выходзіць чалавек. Пытаюся: а людзі ў Рудаўцы жывуць? «Жывуць, але ў другім канцы вёскі. А ў пачатку вёскі толькі я і яшчэ адна сям'я», — адказаў мужчына.

Іду далей па вёсцы. Сустракаю бабульку. Пытаюся: скуль вы шпацыруеце? «З суседняй вёскі Вялікая Кракотка, была ў царкве», — адказала жанчына. «А чаму з Рудаўкі толькі вы адна ходзіце ў царкву?» — зноў задаю пытанне вясковай бабульцы. «Няма каму хадзіць, бо ўсе старыя. Чалавек трыццаць жыве. Няма ў нас крамы, лазні, нічога няма. Нават часам пагутарыць няма з кім. Прывезлі б нам людзей, хай жылі б тут,



• *Валянцін Таўлай (справа) з братам Сашам. 1918 г.*

бо хат пустых хапае», — пачала распавядаць вясковая кабета. «А вы ведаеце, што ваша вёска з’яўляецца радзімай паэта Валянціна Таўлая?» — задаю пытанне старой. «Ведаю, — адказвае жанчына. — У доме № 77 жыве нават яго пляменнік Міхась Іванавіч Таўлай, завітайце да яго, ён вам раскажа пра Таўлая». Іду да хаты Міхася Таўлая. Зачынены веснічкі і хата на замку. Кудысьці ён паехаў ці пайшоў. Не дачакаўся яго.

Ад хаты Міхася Таўлая іду далей па вёсцы. Пуста, ціха, запушчана, толькі вясковы сабачка падбег і пачаў глядзець мне проста ў фотааб’ектыў. Магчыма прасіў, каб даў кавалачак хлеба, ці ўзрадаваўся, што ўбачыў жывую істоту…

Валянцін Таўлай не памяшчаўся ў свой час, у свае пражытыя 33 гады. Гады Хрыста. Яго постаць выключна адметная, таленавітая, знакавая, мужная, ён прарастае ў многія часы, эпохі. Якіх страт здароўя, увагнанага ў сэрца калецтва, каштавалі потым, напрыклад, допыты ў катоўні ў Маладзечне, дзе ў яго, бывалага функцыянера, спрабавалі вырваць намеры пераходу мяжы ў Мінск — па загадкавым выкліку, загадкавым нават для самога Таўлая і Якуба Міско, земляка з вёскі Чамяры Слонімскага павета. Якуб Міско ў апошнія гады свайго жыцця часта расказваў пра жах тых допытаў, а яшчэ пра тое, што потым, ужо ў пасляваенны час ён, працуючы ў Мінску, у адной з цэнтральных газет, спрабаваў высветліць: якая ж у тыя дні, у 1934 годзе, адбылася важная нарада ў сталіцы рэспублікі, на якую выклікалі з падполля яго з Валянцінам Таўлаем? Не было такой нарады, яна не значылася. Выклікалі, можа дзеля… Ажно дрыжыкамі праймала жахлівая здагадка. Там, куды





• *Хата ў вёсцы Рудаўка на Слонімшчыне, дзе гадаваўся Валянцін Таўлай*

рвалася Таўлаева душа, — там пачынала раскручвацца рэпрэсіўная машына, ёй патрэбны былі ўсё новыя ахвяры. Дарэчы, прагавітыя шасцерні ўжо ўцягвалі тады Алеся Салагуба, з якім Таўлай шчыра сябраваў.

Які ж ён быў цярністы і скалісты для Таўлая гэты ягоны шлях у творчае сталенне і ўзмужненне: сем гадоў турмы! Сем — самых маладых, патэнцыйна росквітных для працы таленту — забрала, праглынула, з’ела турма. Вось чаму паэт усімі, як кажуць фібрамі душы ўзненавідзеў краты — ва ўсіх сэнсах. Турма ведала, якім чынам таптаць таленты. Яна і сёння ведае, як гэта рабіць. Нават свой першы зборнік паэт назваў «Шляхі і краты», але ён не выйшаў з друку пры жыцці. Пасля смерці паэта гэты зборнік быў надрукаваны пад загалоўкам «Выбранае».

Творчы подзвіг Валянціна Таўлая быў у бітве яго верша, яго паэзіі з кратамі, у глыбока ўсхваляваным і філасофскім асэнсаванні гэтага мужнага паядынку, гэтага двубою: паэта і турмы, паэта і кратаў над родным краем і ўласным лёсам. Ратуючыся ад судовага загубення, маю на ўвазе турмаў у Слоніме і Гародні, Таўлай, як вядома, перайшоў мяжу, сасмягла акунуўся ў грамадска-літаратурнае жыццё і ўжо ў Мінску не хаваўся нават ад свайго імя, бо лічыў, што ў Савецкай Беларусі ўжо

не патрэбна былая падпольная канспірацыя. Ды яго ўсё ж рыхтавалі ў шлях зваротны. Клікала Заходняя — ён быў ёй больш патрэбны. Праводзіла да «пагранічнага ўзгорку вясны» даражэнькая Кацюша, мілая простая дзяўчына, работніца абутковай фабрыкі. Памяць паэта на Лукішках раніцца той балючай ростанню, калі каханню дарогу перайшла небяспечная праца ў падполлі, усё тая ж турма. Узамен перарванай інтымнасці — пакуты катоўні, немач нараў, мокрая глухасць сцен:

> А як сцежка мая за высокай сцяной абарвецца
> І на кратах абныя крылом акрываўлены сцяг…

Валянцін Таўлай у маленстве застаўся сіратой. Маці Марыя Антонаўна, вяртаючыся з сям'ёй з бежанства, на пад'ездзе да роднага парога памерла ў Зэльве ад халеры. Гэта да яе, да магілы маці на зэльвенскіх могілках, нібыта на параду і паратунак, заспяшаўся Валянцін Таўлай, пасланы з Мінска ў Заходнюю Беларусь. Ды па дарозе вымушаны быў ён саскочыць на хаду з цягніка, вырываючыся з лапаў улёгшых за ім шпіцляў. Мінорная танальнасць ад страты маці напрасілася, дарэчы, у псеўданім Паўлюк Сірата таго ж першага рукапіснага зборніка Таўлая «Шляхі і краты». Таму ўся сыноўняя любасць перадалася бацьку Паўлу Дзям'янавічу, слыннаму грамадаўцу, аўтарытэту на ўсю ваколіцу. Сына моцна дапякала адчуванне віны перад бацькам, няспоўненага абавязку перад ім, няспраўджаных бацькавых надзей на яго. Гэта бацька хадзіў з падаянкамі да астрожных брамаў, выглядаючы спаткання з любым Валянцінам. Зрэшты, гэта ён закінуў першыя зярняты свядомасці ў душу падлетка і справакаваў, хоць і зусім не наўмысна, тое першае сутыкненне сына са слонімскай «прэпарандай», школай-паланізатаркай, што рыхтавала свежыя кадры для апалячвання. Незгаворлівы навучэнец ўсё ж настояў, каб не «тутэйшым» і не палякам запісалі, а беларусам. Сцэна ў аповесці «Аб сабе» дужа каларытная, шматзначная. Вось яна:

«…Пакуль настаўнік выгаварыў маё прозвішча, я ўжо стаяў. Настаўнік, нат не ўзнімаючы вачэй, задае шаблонныя пытанні…

— Нацыянальнасць? — пяро аўтаматычна выводзіць першыя літары.

— Беларуская.

Настаўнік глянуў на мяне. Не дачуў. Аднакурснікі пераглянуліся таксама.

— Нацыянальнасць?



— Беларуская.

Яшчэ раз не дачуў перапісчык. Я паўтарыў яшчэ раз.

— Першы раз чую пра такую нацыянальнасць. Дзе яна жыве? У Амерыцы?

— Жыве на Беларусі, напрыклад, у Слонімшчыне…

— Ага!.. Гэта значыць — тутэйшая? Та-ак!.. Але ж гэта — не нацыя. Кожны выхадзец з тутэйшых у людзі — становіцца палякам ці рускім. Прытым — ты вучышся ў польскай школе… Як жа запісаць?

— Пішыце: нацыянальнасці — беларускай!..

Пачынаецца спачатку, толькі больш нервова. Вучні разяўляюцца ад здзіўлення. Я трымаюся свайго. Пяро злосна скрыпіць, запісваючы мой упарты адказ.

— Родная мова ў сям'і?

— Беларуская.

— Няма такой мовы!

— Відаць ёсць — калі гаворым…

— Гэта мужыцкая гаворка, бескультурная трасянка, якую забываецца кожны культурны выхадзец з тутэйшых і пасля саромеецца нат прыпамінаць!

— Я не саромеюся.

І зноў ідзе доўгая патэтычная "саната" ў прозе. Астаюся пры сваім. Злоснае пяро скончыла скрыпець. Пад грозным позіркам настаўніка — сядаю, адчуваючы, што хоць бой скончыўся, але цяжкая артылерыя яшчэ загаворыць…» (Валянцін Таўлай. Выбраныя творы. Мінск, 1951. С. 204–205).

Напачатку вайны, ідучы на ўсход, Валянцін Таўлай вымушаны быў уладкавацца на Наваградчыне ў Ваўкавічах гмінным сакратаром. Узяўся аднаўляць былыя падпольныя сувязі. Наведаўся неяк на хутар да Вайнілаў. І гэта аднойчы ўратавала. Вясной 1942 года ў Ваўкавічы заскочылі партызаны з атрада з-пад Карэлічаў. І, падняўшы сярод ночы з пасцелі бурмістра гміны і Валянціна Таўлая, пагналі на ўскраек вёскі. Размова была кароткай. Першым ніцма ля плоту ўпаў бурмістр. Дзякаваць Богу, партызан Вайніла-малодшы пазнаў Валянціна — па тым наведванні на хутар. Ўратаваў ад ганебнай смерці. Ды і самому Валянціну не раз прыходзілася ратаваць сваіх сяброў…

Паэт з Рудаўкі ніколі не быў фанатычным — ні ў жыцці, ні ў літаратуры. Ад праяў катэгарычнасці ў радках ён ішоў пакручастымі сцежкамі эвалюцыі ў бок глыбока чалавечага паразумення са светам — акаляючым і глабальным. Сваю справу рабіла роздумнае светапазнанне. Нутром была адчута і ўсё больш спазнавалася кардынальная супярэчлівасць, што вяла да самазнішчальнага сутыкнення непрымірымых сіл. Трагедыя Таўлая пачалася даўно, бадай, з падлеткавага ўзросту. У вершы «Малой сястрычцы» паэт спавядальна прагаварыўся: «Не зразумееш мо мяне — пішу табе яго навырас». Гэтак жа і маладым Валянцінам, яго неакрэплай свядомасцю былі прыняты «навырост» многія зманлівыя ідэі сацыяльна-палітычнай скіраванасці. Таўлай прызнаваўся, што на яго юнацтва —

І арлы садзіліся ахвоча,
Часам — каб да лёту заманіць,
Часам — каб выдзёўбваць вочы…

Выходзіла, што якраз тыя «арлы», што «заманьвалі да лёту», на справе нярэдка аказваліся звычайнымі груганамі, чорнымі воранамі, варанкамі…

У суседняй з Рудаўкай вёсцы Вялікая Кракотка мясцовая моладзь у 1927 годзе адкрыла беларускую бібліятэку, якой усе разам дружна надалі імя Янкі Купалы. Вялікі ўдзел у гэтай справе прымаў і Валянцін Таўлай, які з Вільні разам са сваімі землякамі прывозіў для бібліятэкі кнігі.

Вялікакракоцкая бібліятэка праіснавала 80 гадоў. Яе ўжо няма. Толькі застаўся ў вёсцы ад бібліятэкі вялікі двухпавярховы будынак, у якім сёння гуляе вецер. На першым паверсе бібліятэкі ў холе некалі стаяў бюст Валянціна Таўлая. Знік і гэты бюст. Паціху паміраюць Рудаўка, Вялікая Кракотка, Вецявічы і іншыя вёскі-суседкі. Але памяць пра Валянціна Таўлая, кажучы словамі Максіма Танка, няхай гучыць «набатным звонам над краем».



## Уладзімір Пянткевіч пісаў і размаўляў па-беларуску

Кожны раз, калі еду ў Альбярцін — цяпер гэта мікраараён Слоніма, а да вайны быў пасёлак, — уяўляецца мне, як па яго вузкіх вуліцах крочаць айцы-езуіты ўсходняй місіі, якія служылі тут у 1924–1942 гадах. Бачыцца, як з горкі ад касцёла спускаюцца ўніз да маёнтка графа Пуслоўскага Антон Неманцэвіч, Караль Буржуа, Міхал Маліноўскі, Антон Дуброўскі, Станіслаў Ласкі, Павел Мацэвіч і іншыя святары. Сярод іх — найстарэйшы Уладзімір Пянткевіч.



• *Уладзімір Пянткевіч*

Ужо прайшло шмат дзесяцігоддзяў, як ён, першы протаігумен усходняй місіі і суперыёр законнага дому айцоў-езуітаў у Альбярціне, адышоў у вечнасць. Уладзімір Пянткевіч пахаваны ў Слоніме, на Альбярцінскіх могілках, але магіла яго ледзь не згубілася за савецкімі бязбожнымі часамі. Знайсці яе дапамагла некалі былая выхавальніца альбярцінскіх езуітаў спадарыня Браніслава Васіленка-Бараноўская, якая таксама ўжо не жыве. Сёння на магіле Уладзіміра Пянткевіча стаіць сціплы крыж, яе даглядаюць мясцовыя грэка-каталікі, але няма нават шыльдачкі з прозвішчам святара. А айцец Пянткевіч заслугоўвае ўдзячнай памяці беларусаў. Бо ён быў адным з тых нешматлікіх палякаў, якія насуперак тагачаснай польскай шавіністычнай дзяржаўнай ідэалогіі прызнавалі за беларусамі права на родную мову ў царкве і ў рэлігійным жыцці. Між тым ён сам прыкладаў намаганні, каб авалодаць беларускай мовай, што хутка і зрабіў, і абавязаў усіх святароў, якія працавалі ў Альбярціне і ваколіцах, ды ўсіх выхаванцаў Альбярцінскага манаскага дома вучыць мову народа, сярод якога яны павінны былі працаваць. Ды і з'яўленне беларускамоўнага ўніяцкага часопіса «Да Злучэння!», які рэдагаваў а. Антон Неманцэвіч, было зусім не выпадковым.

### *З біяграфіі*

Уладзімір Пянткевіч нарадзіўся 26 снежня 1865 года ў вёсцы Аджыконь каля горада Кросна (Польша). Гэта быў найстарэйшы сын Максіміліяна — адміністратара маёнтка — і Ганны (дзявочае прозвішча Крышталовіч). Пянткевічы мелі яшчэ двух сыноў — Аляксандра і Браніслава.

Пасля заканчэння трохкласнай школы ў Кросне Уладзімір вучыўся ў гімназіі ў г. Ясла (1–2 класы) і г. Жэшаў (3–4 класы). У 1880 годзе ён уступіў у ордэн езуітаў у вёсцы Стара Весь каля горада Бжозаў, дзе прайшоў двухгадовы навіцыят і вывучаў гуманітарныя навукі, а таксама рыторыку, між іншым, пад кіраўніцтвам немца Алойза Петэрса (1884–1886). Потым — штудзіраваў філасофію ў г. Хыраў (цяпер Хирів ва Украіне) і ў Цярнопалі. Са снежня 1888 года да чэрвеня 1890 года вывучаў лацінскую мову ў Хыраве і дапамагаў ксяндзу Мар'яну Мараўскаму рэдагаваць штомесячнік *Przegląd Powszechny* («Усеагульны агляд»), а таксама прыватным чынам закончыў першы курс багаслоўя.

У 1891–1894 гадах Уладзімір Пянткевіч працягваў навуку на багаслоўскім факультэце, падчас якой 26 мая 1892 года быў рукапалажаны ў святары. Пэўны час выкладаў багаслоўе ў семінарыі езуітаў у Кракаве, а пасля закончыў курсы езуіцкай духоўнасці (трэцюю прабацыю, а гэта самая высокая ступень езуіцкага пасвячэння) у Цярнопалі.

У 1896–1898 гадах святар быў членам рэдкалегіі штомесячніка *Przegląd Powszechny*, дзе адказваў за грамадскі аддзел. Друкавацца пачаў з 1890 года, публікаваў у штомесячніку артыкулы, справаздачы і рэцэнзіі, а таксама пераклады паэтычнай творчасці Мацея Казіміра Сарбеўскага, знаёміў з ягонай рукапіснай спадчынай і прапаведніцкай дзейнасцю, спрабаваў нават пісаць рэлігійныя песні.

З 1897 года на старонках часопіса *Przegląd Powszechny* Уладзімір Пянткевіч тлумачыў грамадскія пытанні, выказваўся за наладжванне апекі над дзяўчатамі, якія працуюць або шукаюць працы, над рабочымі і эміграцыяй. З этычнага боку ён абгрунтоўваў дапушчальнасць арганізавання забастовак прафсаюзамі і рабочымі ў абарону ад эксплуатацыі і несправядлівасці (артыкул «Страйк перад этыкай» у часопісе *Przegląd Powszechny* за 1898 год і іншыя).

У 1899 годзе святар Пянткевіч вярнуўся на кафедру дагматычнага багаслоўя ў семінарыі ордэна езуітаў у Кракаве. Там напісаў навуковую працу «Містычнае Цела Хрыста і сакраментальныя характары» і апублікаваў у штомесячніку *Przegląd Powszechny* у 1902–1903 гадах. У гэты час ён становіцца суперыёрам дома езуітаў у Львове і прысвячае сябе галоўным чынам прапаведніцтву і арганізацыі саслоўных гавенняў для моладзі, інтэлігенцыі, памешчыкаў і клірыкаў. Ён умеў спалучаць глыбокія багаслоўскія разважанні з прыгожым стылем і багатым красамоўствам.



Пасля сыходу з пасады ў чэрвені 1904 года Уладзімір Пянткевіч выехаў у Рым, дзе ў 1904–1906 гадах працаваў сакратарам нямецкай асістэнцыі езуітаў, да якой тады належала галіцыйская правінцыя. Пасля вяртання на радзіму Пянткевіч быў рэктарам калегіі ў Кракаве, затым дарадчыкам правінцыяла, а пасля намеснікам правінцыяла і правінцыялам галіцыйскіх езуітаў. Ён рэарганізаваў тады езуіцкае школьніцтва ў адпаведнасці з патрабаваннямі, пераняў апякунства над новаадкрытай місіяй польскіх езуітаў у Паўночнай Радэзіі, наглядаў за сацыяльнымі адносінамі і развіццём народных рухаў у Галіцыі, ананімна апублікаваў брашуру «Якія абавязкі ў палякаў-католікаў на маючых адбыцца выбарах» (Кракаў, 1907), у якой заклікаў галасаваць за сумленных, разумных і веруючых кандыдатаў.

Пад уплывам Уладзіміра Ледухоўскага, асістэнта пры генерале ордэна, з вялікай упартасцю Уладзімір Пянткевіч падтрымліваў — насуперак агульным меркаванням польскіх езуітаў — ідэю будаўніцтва касцёла Сэрца Езуса ў Кракаве (вул. Каперніка, 26) паводле праекта Францішка Манчынскага. Ён становіцца прэфектам багаслоўскага аддзялення Кракаўскай калегіі і прафесарам касцельнага вымаўлення і педагогікі. Падчас Першай сусветнай вайны з паловы 1914 года да паловы 1915 года працаваў у душпастырстве на Верхняй Сілезіі і Пазнаншчыне, выступаў з патрыятычнымі пропаведзямі. Потым узначальваў езуітаў у Станіслававе (цяпер гэта горад Івана-Франкоўск) ды кіраваў у якасці намесніка правінцыяла езуіцкімі дамамі на Букавіне і ва ўсходняй частцы Галіцыі, якую занялі расіяне.

Пасля заканчэння Першай сусветнай вайны вярнуўся ў Кракаў, дзе выступаў з пропаведзямі і супрацоўнічаў з езуіцкім перыядычнымі выданнямі *Przegląd Powszechny*, *Sodalis Marianus*, *Głosy Katolickie.* Напрыканцы 1923 года прымаў удзел у кангрэгацыі езуітаў у Рыме, падчас якой з адмысловай ініцыятывы папы Пія XI ва ўлонні ордэна

была створана ўсходняя галіна грэцка-славянскага абраду (гэтак званая ўсходняя місія) і ў 1924 годзе была адкрыта першая місійная станцыя ў Альбярціне каля Слоніма. Уладзімір Пянткевіч далучыўся да гэтай місіі, а 15 ліпеня 1925 года ён быў прызначаны суперыёрам ды прота-ігуменам. І на гэтай пасадзе заставаўся да канца жыцця.

### *У Альбярціне*

Вось такі адукаваны чалавек у 1925 годзе прыехаў у Альбярцін. Яму тады было ўжо 60 гадоў.

Нягледзячы на сталы ўзрост, Уладзімір Пянткевіч энергічна пачаў вывучаць царкоўнаславянскую і беларускую мовы, усходнюю літургію, арганізоўваць місію, прыцягваць да справы добраахвотнікаў розных нацыянальнасцей: італьянцаў, французаў, венграў, немцаў. У 1926 годзе ён адкрыў уласны навіцыят у Альбярціне. Шляхам выступленняў і публікацый у айчынным і замежным друку знаёміў шырокія пласты грамадства з узнікненнем і развіццём уніяцкай акцыі.

Але далёка не ўсім у польскім грамадстве тады падабалася дзейнасць айцоў-езуітаў у Альбярціне. Трэба адзначыць, што з некаторым недаверам пэўны час глядзелі на яе і беларускія каталіцкія святары з Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. З боку польскіх шавіністаў на ўсходнюю місію ў Альбярціне ішлі пастаянныя намовы і скаргі свецкім і духоўным польскім уладам. Шавіністычныя польскія колы імкнуліся ўсяляк давесці, што праз візантыйска-славянскі абрад адбываецца русіфікацыя мясцовага «польскага люду». Дайшло нават да таго, што вымушаны быў умяшацца ў гэтыя разборкі вядомы сваім змаганнем супраць усяго беларускага віленскі архібіскуп Рамуальд Ялюбжыкоўскі. 11 лютага 1933 года з нагоды шматлікіх нападак на альбярцінскіх айцоў ён нават выдаў спецыяльны пастырскі ліст. А ў рэлігійным штомесячніку *Jutrzenka Białostocka* ў кастрычніку 1931 года рэдактар ксёндз-канонік Адам Абрамовіч змясціў артыкул пад загалоўкам «З якой мэтай?», у якім крытыкаваў айцоў езуітаў у Альбярціне. Гэты самы артыкул пад зменeным загалоўкам «Русіфікацыя Слонімшчыны» 6 кастрычніка 1931 года перадрукавала *Gazeta Warszawska*, а таксама віленскае *Słowo* і ягоны правінцыйны варыянт *Kurier Nowogródzki*. 2 снежня 1931 года тая ж *Gazeta Warszawska* апублікавала вялікі артыкул памешчыка з вёскі Бердавічы (цяпер гэта вёска называецца Бярдовічы. — *С. Ч.*)



Слонімскага павета Ул. Есьмана, які называўся «Русіфікацыя польскай Беларусі», дзе большую частку матэрыялу займала абвінавачванне ў русіфікацыі спраў ордэна езуітаў грэчаска-славянскага абраду. Гэты матэрыял передрукавалі таксама іншыя выданні.




• *Вокладка часопіса*

Такія шматлікія атакі на ўсходнюю місію вельмі расхвалявалі Уладзіміра Пянткевіча. Ён рэзка абвяргаў падобныя закіды працаўнікаў. На ўсіх уніяцкіх канферэнцыях у Пінску ён заўсёды выступаў у абарону правоў беларусаў на сваю мову. А ў 1932 годзе ў Кракаве выдае палемічную брашуру «Праўда аб Альбярціне» — адказ пану Есьману з Бердавіч і ксяндзу-каноніку Адаму Абрамовічу з Беластока. У сваім выданні аўтар растлумачыў усім мэты місіі ў Альбярціне. У прыватнасці, Уладзімір Пянткевіч пісаў (тэкст даецца ў перакладзе на беларускую мову): «…Слонімшчына і Наваградчына — гэта не Калуга ці Вязьма, і не разумець, што ўніяцкая акцыя на крэсах Польшчы — галоўным і першачарговым чынам, а ў пераважнай большасці выпадкаў, нават выключна — мусіць весціся на беларускай і ўкраінскай мовах…». Далей святар Пянткевіч тлумачыў: «Манашкі, якім мы даручылі прытулак у нашай Альбярцінскай парафіі, дзяцей (усходніх, а не польскіх) на беларускай мове навучаюць і выхоўваюць, арганізуючы з імі батлейкі, рытмічныя танцы гномікаў і іншага роду пастаноўкі і гульні. Я сам нядаўна біскупа-візітатара ад імя двух абрадаў прамовай на польскай і беларускай мовах вітаў, а на ўрачыстай літургіі, здзейсненай уладыкам у Альбярціне, пасля адной ягонай прамовы на рускай мове прагучалі аж дзве беларускія споведзі. Таксама ў другой парафіі ў Сынковічах наш пробашч, блізкі



сусед п. Есьмана, навучанне рэлігіі ў некаторых школах пастаянна вядзе на беларускай мове, а і з падрастаючай пазашкольнай моладдзю ладзіць пастаянна беларускія самадзейныя пастаноўкі і гутаркі… Мы палічылі неабходным стварыць таксама беларускі ўніяцкі штомесячнік пад загалоўкам “Да Злучэння!”, ад студзеня гэтага года выдаем яго ў Альбярціне…» і г. д.

Уладзімір Пянткевіч моцна перажываў за лёс святой справы хрысціянскага аб’яднання. Дый узрост яго быў ужо немалы. Ён памёр ад сардэчнага прыступу 23 сакавіка 1933 года. Яму было 68 гадоў.

### *Фотаздымак па-беларуску*

Штогод у Слоніме ў мікрараёне Альбярцін, дзе знаходзілася рэзідэнцыя айцоў-езуітаў усходняга абраду, адбываюцца пілігрымкі вернікаў. Там цяпер стаіць памятны крыж. У 2000 годзе падчас адной такой пілігрымкі мясцовая старая жанчына-ўніятка прынесла з сабой фотаздымак першага протаігумена ўсходняга абраду а. Уладзіміра Пянткевіча з надпісам па-беларуску.

## Пра Маладога Дубка і Язэпа Крыгу

Партыйная падпольная і легальная беларуская прэса ў былой Заходняй Беларусі ва ўмовах жорсткай цэнзуры, пастаянных канфіскацый польскай паліцыяй друкаваных выданняў ажно да 1939 года была літаральна запоўнена матэрыяламі, падпісанымі рознымі прыдуманымі псеўданімамі і крыптанімамі. Псеўданімы многіх беларускіх літаратараў прыжыліся, і іх ведаюць больш па псеўданімах, чым па сапраўдных прозвішчах: Максім Танк, Міхась Васілёк, Анатоль Іверс, Сяргей Хмара, Гальяш Леўчык, Зоська Верас, Янка Маланка, Антон Навіна, Пятро Сакол, Дзядзька Пранук, Казімір Сваяк, Стары Улас, Вінцук Адважны, Анатоль Бярозка і дзясяткі іншых. Рэдакцыі абавязаны былі тады берагчы таямніцу аўтараў, якія карысталіся псеўданімамі і крыптанімамі. Таму многія аўтары са сваімі псеўданімамі так і засталіся невядомымі на старонках беларускіх газет, бюлетэняў і часопісаў Заходняй Беларусі. Шмат дзеля расшыфроўкі зрабіў слонімец Янка Саламевіч. Ён у 1983 годзе выдаў «Слоўнік беларускіх псеўданімаў і



крыптанімаў (XVI–XX стст.)». Праўда, не раскрыта многа псеўданімаў, за якімі зберагаецца да сённяшніх дзён таямніца сапраўдных аўтараў. Між тым гісторыя літаратуры, літаратуразнаўства і крытыкі не можа абысціся без іх расшыфроўкі. Таму што за псеўданімамі зберагаюцца не толькі імёны аўтараў, але і іх лёсы, іх творчасць.

Літаратурная Дзятлаўшчына (былы Слонімскі павет) у былой Заходняй Беларусі мела добрую суполку творчых людзей, якія пісалі літаратурныя творы і актыўна друкаваліся ў віленскіх і ў іншых беларускіх выданнях. Былі гэта Ігнат Дварчанін (1895–1937) з вёскі Погіры, Сяргей Хмара (сапраўднае прозвішча Сяргей Сіняк, 1905–1992) з вёскі Казлоўшчына, Васіль Струмень (сапраўднае прозвішча Аляксандр Лебедзеў, 1914–1992) з вёскі Зачэпічы, Пятрусь Граніт (сапраўднае прозвішча Іван Івашэвіч, 1909–1980) з вёскі Зачэпічы, Гарасім Прамень (сапраўднае прозвішча Іван Пышко, 1908–1964) з вёскі Зачэпічы, Нікіфар Жальба (сапраўднае прозвішча Аляксандр Бяленка, 1898–1991) з вёскі Гірычы. Пра іх часцей за ўсё і згадвалі літаратуразнаўцы, пішучы пра заходнебеларускую літаратуру ў кантэксце агульнай беларускай літаратуры. А Уладзімір Калеснік у калектыўныя зборнікі «Сцягі і паходні» (Мінск, 1965) і «Ростані волі» (Мінск, 1990) уключыў па некалькі вершаў кожнага з гэтых аўтараў. Але той жа Уладзімір Калеснік, ды і іншыя даследчыкі нашай літаратуры, не згадаў тых паэтаў, якія пад рознымі псеўданімамі друкаваліся ў «Шляху моладзі», «Калоссі», заходнебеларускіх календарах, калектыўных зборніках, газетах. Але не прыгадвалі яны не таму, што не хацелі, а таму, што сапраўдныя прозвішчы невядомых аўтараў пад псеўданімамі цяжка было расшыфраваць. Нядаўна прозвішчы двух паэтаў з той жа Дзятлаўшчыны ўсё ж удалося вярнуць з небыцця.

У 2009 годзе я падрыхтаваў і выдаў асобнай кнігай выбраныя творы Сяргея Хмары пад загалоўкам «Рабінавы хмель». Вырашыў зноў перачытаць гэта выданне. І на старонцы 170 звярнуў увагу на адзін раней прапушчаны факт, калі Сяргей Хмара прыгадвае, што «не так далёка ў суседняй гміне (Раготная)» жыў паэт М. Дубок (сапраўднае прозвішча яго было Язэп Сіняк). Язэп Сіняк не быў ніякім сваяком Сяргею Хмары-Сіняку, проста на Дзятлаўшчыне вельмі шмат жыло людзей з прозвішчам Сіняк, ды і зараз Сінякоў там хапае.

Пра Маладога Дубка не згадвае і Янка Саламевіч у сваім «Слоўніку беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў». Гартаючы, напрыклад, часопіс «Шлях моладзі», які выходзіў у Вільні ў 1929–1939 гадах, сапраўды, трапляем на вершы М. Дубка і Маладога Дубка. Але не трэба блытаць яго з Маладым Дзятком, бо гэта псеўданім паэта Сяргея Новіка-Пеюна. Сяды-тады друкаваўся ў віленскіх выданнях і проста Дубок. Але такім псеўданімам падпісваўся аўтар з вёскі Кашачы каля Паставаў («Шлях моладзі», 1937, № 1.С.27). А менавіта псеўданімы М. Дубок і Малады Дубок меў менавіта паэт з былога Слонімскага павета Язэп Сіняк.

Язэп Сіняк жыў у вёсцы Раготна. Ён меў пэўную адукацыю, бо актыўна знаёміўся з заходнебеларускай прэсай. Потым і сам пачаў дасылаць свае вершы ў Вільню. Асабліва шчыльна супрацоўнічаў Малады Дубок з часопісам «Шлях моладзі». Агляд яго вершаў трапляў і ў паштовую скрынку часопіса. «Вершы атрымалі, адзін з іх друкуем. Звярніце ўвагу на папраўкі і пішыце выразней пяром, а не алоўкам. Адказ на ўсе пытанні дамо пісьмом тады, як дастанем той адрас, каторага Вы просіце», — так паведамляў «Шлях моладзі» ў № 7–8 за 1934 год. А ў № 2 за 1935 год «Шлях моладзі» пісаў Маладому Дубку: «Пісьмо і матэрыялы атрымалі, просьбу часткова спаўняем, рэшта будзе ў пісьме, якое незадоўга пастараемся напісаць».

Малады Дубок жыў бедна, працаваў на зямлі разам з бацькамі. Вершы і пісьмы пісаў алоўкам, занатоўваў алоўкам і ў сшыткі. Гэтыя сшыткі ён заўсёды насіў з сабою за пазухай, бо дома баяўся пакідаць. Некалькі разоў маці спальвала іх у печы, бо чула на вёсцы, што тых, хто чытае газеты і часопісы, а таксама нешта піша, арыштоўваюць і саджаюць у турму, таму баялася, каб сын з-за «гэтай пісаніны» не трапіў за краты.

Сяргей Хмара ў «Шляху моладзі» (1938, № 21) апублікаваў вялікі артыкул «Пяе беларускі маладняк», дзе згадаў і пра Маладога Дубка: «…Вельмі плодны. З вершаў яго б'е нейкі сум і туга. Няма радасці, хоць час ад часу вырываюцца і бунтарныя радкі. Піша. Піша ўсюды. Дзень і ноч…»

І Малады Дубок пісаў, а лепшыя творы траплялі ў друк. Хаця, сапраўды, вершы атрымліваліся тужлівыя, у іх аўтар марыў пра тое, што «устане наш народ з пакуты… і парве вяковы путы ён магутнаю рукой». Паэт хацеў, каб яго краіна дарагая прытуліла і абняла, каб «над намі зорка Волі ўзышла, і над нашым родным краем ззяла міла без канца».



Пра светлае і шчаслівае жыццё марыў Малады Дубок з Дзятлаўшчыны. Ён таксама вельмі жадаў выдаць свой першы паэтычны зборнік, але, як пісаў Сяргей Хмара, «на зборнік не было выдаўцоў».

Як склаўся лёс вясковага паэта — пакуль невядома. Сёння ў вёсцы Раготна на Дзятлаўшчыне старэйшыя жыхары яго не памятаюць, ды і людзей з прозвішчам Сіняк у вёсцы ўжо не засталося.

У 1920–1930-я гады на Дзятлаўшчыне ў вёсцы Казлоўшчына жыў яшчэ адзін беларускі паэт — Язэп Крыга. Сапраўднае прозвішча яго было Хаім Кравецкі. Яўрэй па нацыянальнасці, але беларус — сэрцам і душой.

Язэп Крыга быў сынам местачковага краўца з вёскі Казлоўшчына. Яго дзяцінства прайшло разам з беларускімі хлопчыкамі і дзяўчынкамі, з якімі ён размаўляў па-беларуску, чытаў беларускія газеты і часопісы. А дзесьці ў 1927 годзе ён паступіў у Радашковіцкую беларускую гімназію імя Францыска Скарыны. Але ў верасні 1928 года гімназія была закрыта і Кравецкі вярнуўся дамоў.

Жывучы на Дзятлаўшчыне, Хаім Кравецкі пачаў пісаць вершы на беларускай мове і дасылаць у віленскія выданні, падпісваючы іх псеўданімам Язэп Крыга. Вершы з вялікім задавальненнем публікавалі часопісы «Шлях моладзі», «Калосьсе» і іншыя выданні. Па першых паэтычных творах Язэпа Крыгі было бачна, што ў беларускую літаратуру прыйшоў вельмі таленавіты паэт. Некаторыя яго сябры і віленскія паэты пачалі называць Хаіма «другім Змітраком Бядулем». У артыкуле «Пяе беларускі маладняк» пра яго напісана, што Язэп Крыга «характарызуецца багацтвам вобразаў і думак. Шматабяцаючы талент. Патрэбна толькі шліфоўка…»

У часопісе «Баявая ўскалось» (1949, № 2) Сяргей Хмара апублікаваў невялікі артыкул-згадку, які так і называецца «Язэп Крыга». У ім аўтар прыгадвае, што Язэп Крыга разам з беларусамі «перажываў трагедыю ўсяе тадышняе беларускае сялянскае моладзі», што «гадуючыся разам са сваімі суседзямі — хлопцамі-беларусамі, ён з маленства чуўся зродненым з імі. Жыў іхнымі думкамі, імгненнямі і летуценнямі».

Першыя вершы Язэпа Крыгі, якія публікаваліся ў «Шляху моладзі» і ў «Калоссі», былі навеяны жыццёвай праўдзівасцю, адчувалася, што паэт шмат думаў над з'явамі і працэсамі той рэчаіснасці, якая існавала.

Тым не менш паэт быў аптымістам, шчырым і смелым беларусам, які моцна любіў сваю Бацькаўшчыну:

> Але ніякая бура ўжо з сэрца
> Вырваць не зможа любоў да краіны…

У вершах Язэпа Крыгі было вельмі шмат розных параўнанняў. Адчувалася, што аўтар добра ведаў, як і чым можна ўзмацніць вершаваны твор, каб зрабіць паэтычны малюнак па-мастацку дакладным, наглядным, жывапісным і праўдзівым. Праз розныя параўнанні ў вершах выяўлялася мастакоўская своеасаблівасць паэта, яго стаўленне да таго, што адлюстроўвалася ў ягоных творах: «асеннія вятры — кудлатыя сабакі», «кашмарнай хмараю навеялі тугу», «вецер мой сум слязой ў хмары прыгоніць» і г. д.

Другая сусветная вайна спыніла паэтычную творчасць Язэпа Крыгі, які нават паспеў падрыхтаваць да друку свой першы паэтычны зборнік. Яўрэйская сям'я Кравецкіх уцякала ад немцаў на ўсход. Развітанне з радзімай паэт моцна перажываў і не вельмі хацеў нікуды ехаць. Але выйсця іншага не было. Гэтыя ўцёкі таксама аказаліся трагічнымі. У ваколіцах Смаленска ўся сям'я Кравецкіх была расстраляна немцамі. Загінуў і Язэп Крыга…

Пошукі звестак пра беларускіх паэтаў Маладога Дубка і Язэпа Крыгу працягваюцца. Некаторыя вершы маладых і невядомых раней аўтараў з былога Слонімскага павета, якія некалі на этапах беларускага гісторыка-літаратурнага руху ў Заходняй Беларусі былі сведкамі самасвядомасці свайго народа і, вядома ж, патрыётамі роднай Бацькаўшчыны, вырашыў уключыць у кнігу.

## *Язэп Крыга*

### Шый ды шый…

Млеюць рукі й ногі пры рабоце —
Шый, ды шый, ды шый!
Ломіць спіну боль і слепіць вочы —
Гнісь, працуй, маўчы!



Трэба ж, ой, як многа трэба!
Дзецям і сабе —
На аптэку, на падаткі, трэба —
Ні канца бядзе.
Шый, ды шый, ды шый, шчэ трэба многа!
Ноч вяліка, гэй!
Выспішся ў другім жыцці, нябога, —
Сон гані з вачэй!
Шый, ды шый… ах, укалола йголка,
Паказалась кроў.
Разыгралася ў вачах вясёлка…
Ах! Ўкалола йзноў…
Кроў!.. Ці сон яно, ці ява?
Кроў во ручаём —
Залівае стол, машыну, лаву
І усё, весь дом…
Выбіць шыбу, крыкнуць — мо пачуюць…
Гэй!.. Ах, што за мара — сон!
Цёмна. Лямпа згасла. Вецер дуе,
Вые за вакном…

*1938*

### Можа…

Можа, віхураю гнаны, прыйдзецца
Родную хату яшчэ калі кінуць,
Але ніякая бура ўжо з сэрца
Вырваць не зможа любоў да краіны.
Тут усё блізкае, матчына — міла:
Неба, зямля, лес і луг, кожна горка,
Могілкаў дзедаўскіх кожна магіла, —
Свет першых радасцяў і слёзаў горкіх…
Калі прыйдзецца — ў далёкай чужыне,
Сэрца тугой будзе поўна, не йначай,

Але і родна вярба і рабіна
Пэўна ля хаты за мною заплача.
Хіба іх можа віхура паломіць,
Ды разам з бацькаўскай хатай зруйнуе —
Вецер мой сум слязой ў хмары прыгоніць,
Роднае неба хоць раз засумуе.

*1939*

## Туман

Туман павіс над мерзлаю зямлёю,
Заслонаю сівой завесіў ззянне зор.
Заліў ўвесь свет, нібы жывой вадою,
І патанулі хаты, дрэвы, цёмны бор.
Ды хаты аганькамі пранізалі прастор,
Нібы шукаючы адна другое…
І — праз заслону сіву — ззянне зор,
Туман павіс на мерзлаю зямлёю.

*1939*

## Першы снег

Асеннія вятры — кудлатыя сабакі —
Парвалі радасць сіня-сонечну маю,
Ўкачалі ў гразь яе ліхія ваўкалакі,
Кашмарнай хмараю навеялі тугу…
Расплакаліся дні мае — сівыя вочы
Над брудным воблікам і галітой зямлі,
Над горкай роспаччу даўгой асенняй ночы
І над бяссіллем дрэў, якіх вятры змаглі.
У дзень тужлівы йзноў ўсміхнулася мне радасць —
Быў гэтай ласкай белай ціхі мілы смех:
З узвышшаў ён пачаў кружыцца й падаць
Латункай яснаю на землю — першы снег…



Ён усміхаўся над тугою і нягодай
І баяў байкі-чары, як у дзіўным сне,
Аб восені праходзячай і аб зіме халоднай,
Аб белых хорамах, аб сонцы і вясне…
Ды сум заўторыў йзноў, як ветру свіст пануры, —
Аб ўсім праходзячым, аб жыцці людскім выў…
Я гнаць бы рад яго мяцеліцаю-бурай,
Ды снег у гразь упаў… Таму мо й сум той быў…

*1937*

## *Малады Дубок*

### Скажыце

Ах, родна старонка,
Пакутна мая.
Крывавай рукою
Ты спісана ўся.
У крыўдзе і здзеку
Ты бедная спіш,
Ад слёзаў-уціску
Без руху ляжыш.
Куды не паглянеш:
Магілы-крыжы,
Ну, проста за імі
Жывы сам ідзі.
Скажыце вы, людзі,
Скажыце вы мне,
Калі зло мінецца
І ў процьму спадзе?
Яснае сонца
Калі заблішчыць,
Свабода над краем
Маім загудзіць?
І праўда пагляне,

Народ ажыве,
І родная ніва
Уся зацвіце?..

*1930*

* * *

Надзейся на сілу, на гарт свайго цела —
Здабудзеш ты сонца агні!
Глянь ворагу ў вочы адважна і смела —
І самі спадуць кайданы!
Сплыве тваё гора, адыдуць мучэнні,
Жыццё зацвіце, як вясна.
Адхлынуць ад сэрца ўсе болі-цярпенні —
Красой абальецца душа…
Салодкае радасці чыстай слязою
Зямелячку родну зрашу.
І буду маліцца я цэлай душою
За тых, хто палёг у баю!

*1934*

* * *

Прыйдзе час і волі зорка,
Зорка шчасця прыйдзе к нам —
Не пальюцца слёзы горка,
Не дакучыць боль грудзям.
Разгарыцца над старонкай
Залатым агнём зара,
І вясёлай песняй звонкай
Прыйдзе, прыйдзе к нам вясна!
Ўстане наш народ з пакуты,
Вочы змые, твар расой —



І парве вяковы путы
Ён магутнаю рукой.

*1934*

## Толькі ўчора…

Толькі ўчора, здаецца, прыгожа
Сонейка ззяла, вітала зямлю,
Толькі ўчора, здаецца, вясёла
Птушачкі песні пялі ў гаю.
Сёння ўжо цёмныя, цяжкія хмары
З даляў у далі па небе плывуць.
Сёння ўжо сумныя думкі, як чары,
Сэрца скавалі, балюча ўздыхнуць.
Толькі учорайка мне, як дзіцяці,
Сніліся салодкія сны пра жыццё.
Толькі ўчорайка мог шчасце пазнаці…
Сёння ж у момант прапала усё.

*1934*

## Зіма

Зіма, зіма нягодная,
Да нас ты ўжо прыйшла,
Халодна і марозна
Дарогу замяла.
Усюды нема, глуха,
На полі снег ляжыць,
І толькі завіруха
Мяцеліцай гудзіць.
Куды ні глянь — маўкліва
Зямелька родна спіць,
Глядзець аж неяк крыва,
І сэрца нат шчыміць…

Было калісь вясною,
Пойдзеш ў зялёны гай —
Вячэрняю парою
Дрыжыць ад песні май.
Дзянёчак светла-ясны,
Кіпіць жыццё, бурліць.
А сёння ён няшчасны
Бушуе і гудзіць.
Аднак жа век не будзе
Зіма ў нас панаваць —
Вясна ізноў к нам прыйдзе,
Красою будзе ззяць.

*1934*

### З Новым годам

З Новым годам! З новым шчасцем,
З лепшай доляю, жыццём!
Я вітаю цэлым сэрцам
Беларусаў-крывічоў!
З Новым годам! З днём — зарою,
Светлай зорачкі — агнём!
Я вітаю ўсёй душою
Беларусаў-крывічоў!
З Новым годам! Каб над намі
Зорка Волі узышла
І над нашым родным краем
Ззяла міла без канца!

*1935*



* * *

Міне зіма, вясна надыдзе,
У полі кветкі зацвітуць.
Дзе сёння бура ўсцяж бушуе —
Вясёлы песні загудуць.
І там, дзе сёння гора, смутак,
Праклёны цяжкія вісяць, —
Шчаслівы дзень для ўнукаў нашых
Праз іх, браты, ужо відаць.

*1935*

* * *

Шэрыя, цёмныя хмары
Цяжка па небе плывуць,
Дрэвы лісцё раскідаюць,
Сцюжай вятры так і дзьмуць.
Глуха і нудна у полі,
Сціх салавей у гаёх —
Восень прыйшла і схавала
Светлыя дні ў туманох.
Спіць, спачывае зямелька,
Людзям аддаўшы дары.
Толькі балючае сэрца
Не мае спакойнай пары.

*1935*

* * *

На зары дзён юнацка-бурлівых
Я жыццё самахоць атруціў,
У бяссонныя ночы тужліва
Я, шукаючы праўды, блудзіў.

І не раз плакаў я над магілай,
Дзе найлепшыя спяць змагары,
І душой не раз я таміўся.
Быў гатоў, як яны, умярці.
І не раз маё сэрца шчымела,
Апякаючы прошлыя дні…
О краіна мая дарагая,
Ты мяне прытулі, абнімі!..

*1937*

## Арышт, лагер, зноў арышт і расстрэл

Вёска Боцкавічы Дзятлаўскага раёна ў першай палове ХХ стагоддзя ўваходзіла ў склад Слонімскага павета. У 1897 годзе ў вёсцы пражывалі 473 жыхары, а напачатку Першай сусветнай вайны — крыху больш за 500 жыхароў.

Жылі ў вёсцы і сем'і з прозвішчам Кашко. Звычайныя беларускія сем'і, якія з ранку да вечара працавалі на зямлі, каб было з чаго жыць і гадаваць дзяцей.

У праваслаўнай сям'і Аляксандра Кашко 21 лютага 1891 года нарадзіўся сын Антон. Маленства яго прайшло ў родных Боцкавічах. Потым хлопчык скончыў царкоўнапрыходскую школу. У 13 гадоў бацькі аддалі Антона Кашко вучыцца ў гімназію ў Ліду. Там ён скончыў 6 класаў і паступіў на аднагадовыя курсы настаўнікаў у Навагрудак. Пасля курсаў яго накіравалі на працу настаўнікам у Мазырскі павет. Але там не аказалася працоўнага месца, таму юнак паехаў працаваць у Бабруйскі павет. Настаўнічаў Антон Кашко на Бабруйшчыне да пачатку Першай сусветнай вайны.

Летам 1914 года яго прызвалі ў войска і залічылі ў чацвёртую роту 118-га пяхотнага Шуйскага палка радавым. А потым адразу накіравалі на фронт ва Усходнюю Прусію. На фронце ён знаходзіўся да траўня 1915 года. Там малады салдат напісаў заяву і быў залічаны ў Першую Пецяргофскую школу прапаршчыкаў. Восенню 1915 года беларус Кашко скончыў школу прапаршчыкаў, і 17 кастрычніка 1915 года яго перавялі ў малодшую школу унтэр-афіцэраў. Праз пэўны час яго накіравалі ў 11-ы Сібірскі стралковы запасны батальён у склад малодшых афіцэраў 4-й роты.



19 лютага 1916 года Антона Кашко адправілі ў складзе роты на фронт. Яго афармілі ў 494 пяхотны Вярэйскі полк малодшым афіцэрам 1-й роты, а потым перавялі афіцэрам у 8-ю роту. Летам беларус пачаў камандаваць гэтай ротай.

З гэтага часу ў Антона Кашко пачынаецца вайсковы кар'ерны рост. Ён камандуе 13-й ротай, прызначаецца часовым камандзірам 2-га батальёна, ваюе на Румынскім фронце і г. д.

За гэты час вайскоўца з Дзятлаўшчыны ўзнагароджваюць ордэнам св. Станіслава трэцяй ступені, ордэнамі св. Ганны трэцяй і чацвёртай ступеняў, Георгіеўскім крыжам 4-й ступені і іншымі ўзнагародамі.

У сярэдзіне снежня 1917 года Антон Кашко атрымаў двухмесячны водпуск і паехаў да бацькоў у Сібір, дзе яны знаходзіліся ў бежанстве. А летам 1918 года прыехаў у Томск і пачаў служыць у 4-м Томскім полку. Улада там належала Белай арміі. Ваеннае камандаванне ўзначальвалі генералы Аляксей Грышын-Алмазаў (1880–1919) і Анатоль Пепяляеў (1891–1938). У жніўні 1918 года 4-ы Томскі полк быў перайменаваны ў 8-ы Бійскі Сібірскі стралковы полк, а дывізія, дзе служыў Антон Кашко, стала называцца 2-й Сібірскай стралковай.

Так вайсковец з Дзятлаўшчыны трапіў у белую армію. Гісторык з Барнаула (Расія) Андрэй Краснашчокаў, з якім мы разам даследуем лёс вайскоўцаў Белай арміі ў 1917–1920 гадах, у тым ліку і беларусаў, напісаў мне, што знайшлося пацвярджэнне: Антон Кашко сапраўды служыў у 8-м Бійскім палку ў адмірала Аляксандра Калчака (1874–1920). Ужо ў лютым 1919 года Антон Кашко меў чын штабс-капітана і быў нават узнагароджаны за поспехі ў баях супраць Чырвонай Арміі ордэнам св. Уладзіміра 4-й ступені (загад Сібірскай арміі № 57 ад 13.02.1919). Ды і ў пратаколе допыту за 1937 год ад 4 жніўня ў Віцебску гэта добра адлюстравана. Але гэта будзе пазней.

У архіве ўпраўлення КДБ па Віцебскай вобласці захоўваюцца дакументы, якія паведамляюць, што першы раз Антон Кашко быў арыштаваны Віцебскім аператыўным сектарам АДПУ БССР 28 лістапада 1930 года (ордэн на арышт ад 27 лістапада 1930 года № 1422). Яго абвінавачвалі ў правядзенні антысавецкай агітацыі. А 26 студзеня 1931 года



ПРОПУСК

Срок продлен . . 193 г.

Зав. Бюро пропусков

Срок продлен . . 193 г.

Зав. Бюро пропусков

Срок продлен . . 193 г.

Зав. Бюро пропусков

• *Пропуск Антона Кашко*

былы вайсковец арміі Калчака быў накіраваны ў канцлагер тэрмінам на 5 гадоў. Тэрмін ён адбыў і вярнуўся ў Віцебск.

У Віцебску Антон Кашко з сям'ёй жыў на 5-й вуліцы Лекерта, дом № 11. Разам з ім жылі жонка Аксеня Кашко 1905 года нараджэння і сын Уладзімір 1925 года нараджэння. Дарэчы, Уладзімір Кашко падчас Другой сусветнай вайны 20 студзеня 1943 года быў прызваны на фронт. Ён служыў механікам электра- і спецабсталявання. 20 мая 1945 года яго ўзнагародзілі медалём «За баявыя заслугі». Гэты медаль Уладзімір Кашко атрымаў за тое, што абслужыў 268 начных баявых самалёта-вылетаў. А на Дзятлаўшчыне ў гэты час жылі і бацькі Антона: Аляксандр Кашко і Агаф'я Кашко, а таксама браты Міхаіл і Іван.

Антон жа Кашко пасля пяці гадоў зняволення ў Віцебску пачаў працаваць эканамістам-планавіком Віцебскай ільнопрадзільнай ткацкай фабрыкі імя Кагановіча. Здавалася, што ўсе нягоды за плячыма і цяпер можна спакойна жыць і працаваць. Тым больш, што ў той час не дужа хапала людзей адукаваных, найперш у пытаннях эканомікі. У Антона Кашко жыццёвы вопыт быў вялікі. Але раптам 8 жніўня 1937 года яго зноў арыштоўваюць. Падчас допыту Антону зноў нагадваюць пра тое, што ён служыў у белай арміі. Вось пратакол допыту, які захоўваецца ў архіве ўпраўлення КДБ па Віцебскай вобласці.



### ***Пратакол допыту 1937 года жніўня 4-га дня г. Віцебска***

Я, оперупаўнаважаны Віцебскага гарадскога аддзела НКУС мл. лейтэнант дзяржбяспекі (закрэслена) дапытаў арыштаванага Кашко Антона Аляксандравіча, 1891 года нараджэння, б/п, з сярэдняй адукацыяй, жанаты, беларус, служачы, ураджэнец вёскі Боцкавічы Дзятлаўскай воласці Слонімскага павета Польшчы, працуе на фабрыцы Кагановіча ў якасці эканаміста-планавіка, жыў у горадзе Віцебску, вул. 5-я Лекерта, д. 11.

Пытанне: якую Вы мелі гаспадарку перад і пасля рэвалюцыі?

Адказ: зямлі 4 дзесяціны, кароў — 2, коней — 1. Якая гаспадарка ў бацькі цяпер — я не ведаю, бо бацька жыве ў Польшчы.

Пытанне: калі і за што Вы судзіліся?

Адказ: судзіўся я ў 1931 годзе тройкай АДПУ БССР за антысавецкую і контррэвалюцыйную дзейнасць, тэрмінам на 5 гадоў, пакаранне адбываў у канцлагеры.

Пытанне: у якім чыне і пасадах Вы служылі ў белай арміі?

Адказ: служыў у арміі Калчака ў чыне штабс-капітана, на пасадах камандзіра роты і камандзіра батальёна да самага разгрому Чырвонымі войскамі Калчака. Падчас разгрому калчакаўскай арміі трапіў у палон да чырвоных.

Пытанне: хто са сваякоў у Вас ёсць за мяжой?

Адказ: у Польшчы ў вёсцы Боцкавічы жывуць мае бацька, маці, браты і сястра. Але, так як я ніякай сувязі з імі не маю, сказаць, хто са сваякоў яшчэ жывы, я не магу. Акрамя блізкіх сваякоў, там пражываюць сваякі больш далёкія.

Пытанне: следства мае дадзеныя пра тое, што Вы на працягу доўгага часу займаліся контррэвалюцыйнай прапагандай. Раскажыце пра гэта следству.

Адказ: ніколі я контррэвалюцыйнай прапагандай не займаўся.

Выказанае запісана з маіх слоў правільна, мне прачытана ўслых, у чым я і распісваюся. Чытаў асабіста Антон Кашко.

Дапытаў: оперупаўнаважаны Віцебскага ГА НКУС

*(подпіс неразборлівы).*

### *Пратакол дадатковага допыту абвінавачанага Кашко Антона Аляксандравіча ад 5 жніўня 1937 года*

Пытанне: ці прызнаеце Вы сябе вінаватым у прад'яўленым Вам абвінавачванні па 72–76 арт. КК БССР?

Адказ: вінаватым у прад'яўленым мне абвінавачванні па 72–76 артыкулах КК БССР у тым, што я, сумесна з групай кулакоў, рэпрэсаваных савецкай уладай, праводзіў арганізацыйную контррэвалюцыйную работу, накіроўваючы рабочых у контррэвалюцыйным кірунку, зрываючы мерапрыемствы партыі і савецкай улады, не прызнаю ні ў якай меры.

Запісана з маіх слоў правільна, прачытана мною асабіста, у чым я і распісваюся

*А. Кашко.*

Дапытаў: оперупаўнаважаны

*(почырк неразборлівы).*


Протокол допроса

Пастановай тройкі НКУС БССР ад 9 жніўня 1937 года Антон Кашко быў асуджаны на расстрэл, і 22 жніўня 1937 года яго расстралялі. Месца расстрэлу невядомае.

Антона Кашко двойчы арыштоўвалі і двойчы яго рэабілітавалі: па першай справе ён быў рэабілітаваны 12 ліпеня 1989 года, а па другой — 14 чэрвеня 1958 года.

У Дзяржаўным архіве Віцебскай вобласці (ф. 5, воп. 2, спр. 908; ф. 302, воп. 2, спр. 223) захоўваюцца дакументы са справы Антона Кашко, вокладкі спраў, асабістая картка, загады, выпіскі з загадаў, анкеты, службовыя запісы 1920-х гадоў, некаторыя даведкі.



## Станіслаў Лорэнц пісаў пра Слонім



У 1933 годзе ў Слоніме выйшла з друку кніжачка невялікага памеру (40 старонак) на польскай мове *Wycieczki słonimskie* («Слонімскія вандроўкі»). Яе напісаў 34-гадовы польскі музеязнавец, гісторык мастацтва Станіслаў Лорэнц.

Гэта было ўнікальнае выданне, якое ўяўляла сабой кароткі даведнік па краязнаўстве Слонімскага павета. Аўтар цікава апісаў Слонім, Альбярцін, Дзярэчын, Быцень, Мерачоўшчыну, Ружаны, Сынковічы, Дзятлава і Жыровічы. У кніжачцы змешчана 10 фотаздымкаў, найбольш тых, на якіх адлюстраваны Слонім, Жыровічы, Сынковічы і Дзярэчын. Ёсць у старым выданні і цікавы малюнак-партрэт Аляксандра Солтана, які быў намаляваны ў 1913 годзе мастаком Вацлавам Вейткам. Партрэт таго Аляксандра Солтана, якому ў 1493 годзе вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага Аляксандр падараваў у спадчыну Жыровічы. Гэта той Аляксандр Солтан, якому пастушкі аддалі абразок, што знайшлі ў лясным гушчары на квітнеючай грушы-дзічцы ў другой палове XV стагоддзя. Спачатку Аляксандр Солтан, якому пастушкі прынеслі сваю знаходку, меў намер захоўваць маленькі абразок з выявай Божай Маці ў куфэрку, аднак ён адтуль дзіўным чынам прапаў, калі падскарбій захацеў паказаць яго сваім гасцям. Абразок зноў знайшлі па промнях святла на той самай грушцы. Пабачыўшы ў гэтым здарэнні пэўны знак Нябеснай Уладаркі, Солтан вырашае пабудаваць драўляны храм Божы ў гонар Найсвятой Багародзіцы на тым самым месцы, дзе сярод лясных дрэў упершыню заззяў промнямі на грушцы абраз Божай Маці. Раней партрэта Аляксандра Солтана я нідзе не сустракаў.



• *Вокладка кнігі Wycieczki słonimskie*

Кніжка Станіслава Лорэнца *Wycieczki słonimskie* была выдадзена Слонімскім аддзелам Польскага гістарычнага таварыства.



• *Партрэт Аляксандра Солтана з кнігі Wycieczki słonimskie*

Існавала тады ў Польшчы такое краязнаўчае таварыства, якое шмат зрабіла дзеля вывучэння гісторыі сваёй Бацькаўшчыны. Яно і цяпер у Польшчы дзейнічае, а вось у Беларусі, на вялікі жаль, падобнага гістарычнага краязнаўчага таварыства няма.

А цяпер некалькі слоў пра аўтара кнігі Станіслава Лорэнца. Вялікі польскі гісторык, краязнавец і музеязнавец Станіслаў Лорэнц пражыў доўгае жыццё — 92 гады. Нарадзіўся ён ў 1899 годзе, а памёр у 1991 годзе.

Сваю прафесійную кар'еру ён пачаў у даваенны перыяд, у 1929–1935 гадах працаваў рэстаўратарам помнікаў Віленскага і Наваградскага ваяводстваў. Вось тады, жывучы ў Слоніме, ён і напісаў даведнік па Слонімскім павеце. Пасля адмаўлення ад пасады рэстаўратара Станіслаў Лорэнц працаваў выкладчыкам Віленскага ўніверсітэта. У 1935–1982 гадах (з перапынкам у часе Другой сусветнай вайны) быў дырэктарам Нацыянальнага музея ў Варшаве, фонды якога ў значнай ступені ўзбагаціў, часта за кошт правінцыйных музейных установаў.

У час нямецкай акупацыі славуты гісторык вызначыўся ў акцыі ратавання шэдэўраў польскай культуры і самых каштоўных помнікаў, якія знаходзіліся ў польскіх фондах. У 1939 годзе ён ратуе самыя каштоўныя калекцыі Музея і Каралеўскага замка. У рамках прац Дэпартамента асветы і культуры Дэлегатуры эміграцыйнага ўрада Рэспублікі Польшча стварае канспіратыўны цэнтр дакументацыі знішчэнняў і вывазу немцамі твораў мастацтва. У час Варшаўскага паўстання 1944 года ён нястомна выратоўвае творы мастацтва ад нямецкіх рабаўнікоў.



Пасля 1945 года Станіслаў Лорэнц працаваў на карысць аднаўлення помнікаў і музеяў Польшчы. У 1945–1951 гадах ён узначальваў Дырэкцыю музеяў і аднаўлення помнікаў, а ў 1947 годзе стаў прафесарам Варшаўскага ўніверсітэта. З 1949 года быў членам Польскай акадэміі ўмеласцей, а з 1952 года — Польскай акадэміі навук. У 1965–1969 гадах быў дэпутатам парламента, потым — экспертам ЮНЕСКА па справах аховы помнікаў. Асабліва моцна спецыялізаваўся ў аднаўленні Каралеўскага замка ў Варшаве.

Станіслаў Лорэнц быў таксама сябрам шматлікіх замежных навуковых арганізацый і таварystваў, аўтарам каля 300 навуковых прац па гісторыі мастацтва, музейнай і рэстаўратарскай справах. Найважнейшымі ягонымі дасягненнямі з'яўляюцца працы *Dzieje Muzeum Narodowego w Warszawie* («Гісторыя Нацыянальнага музея ў Варшаве»), *Przewodnik po muzeach i zbiorach w Polsce* («Даведнік па музеях і музейных фондах Польшчы»). Пасля сябе Лорэнц пакінуў і кнігу ўспамінаў *Album wileńskie* («Віленскі альбом») з жыцця ў Вільні, дзе да вайны працаваў рэстаўратарам помнікаў. Тады аўтар быў у захапленні не толькі ад магчымасці аховы помнікаў мінуўшчыны, але і ад дзейнасці ў шматлікіх сферах культуры.

Станіслаў Лорэнц быў узнагароджаны Ордэнам будаўнікоў Народнай Польшчы, двойчы атрымліваў дзяржаўныя прэміі: у 1964 і 1979 гадах.

## Васіль Двоеў — псеўданім Івана Міско

У слонімскага пісьменніка Івана Міско (1912–1999) быў не толькі адзін псеўданім Анатоль Іверс, але і яшчэ некалькі. Свае журналісцкія карэспандэнцыі, а таксама вершы Іван Міско падпісваў псеўданімамі, а таксама крыптанімамі Філіпаў, В. Д., В. Двоеў, Васіль Двоеў. Пра гэта нават згадвае ў сваім «Слоўніку беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI–XX стст.)» Янка Саламевіч.

Пад псеўданімамі Васіль Двоеў, В. Двоеў, крыптанімам В. Д. Іван Міско актыўна друкаваў свае інфармацыі і вершы ў слонімскай газеце «Вольная праца» падчас Другой сусветнай вайны ў 1943–1944 гадах. У «Вольнай працы» (20 траўня 1944 г.) пад крыптанімам В. Д. была змешчана інфармацыя «Фашысты грабяць сялян». У № 18 ад 7 чэрвеня 1944 года пад гэтым крыптанімам друкаваўся і матэрыял



• *Іван Міско ў гады Другой сусветнай вайны*

«Грабяжы і насільствы не спыняюцца», у № 20 ад 23 чэрвеня 1944 года В. Д. публікуе і матэрыялы «Арышты і грабяжы», «Гінуць ад уласных мін» і г. д.

Іван Міско ставіў свае псеўданімы В. Двоеў, Васіль Двоеў і пад вершамі. Пад гэтымі псеўданімамі былі апублікаваны яго вершы ў «Вольнай працы»: «Нагарода» (30 снежня 1943 г.), «Вайна» (12 чэрвеня 1944 г.), «Ліст у Нямеччыну» (2 лістапада 1943 г.), «Партызаны-камсамольцы» (21 кастрычніка 1943 г.) і шэраг іншых.

Адзін верш Васіля Двоева «Ліст у Нямеччыну» я вырашыў уключыць у кнігу. Дарэчы, гэты верш друкаваўся ў зборніку паэта «З пройдзеных дарог» (Мінск, 1970. С.35). Але ў ім адсутнічалі дзве страфы. Таму сёння верш «Ліст у Нямеччыну» Васіля Двоева (Анатоля Іверса — Івана Міско) друкуецца ў першапачатковым варыянце.

### Ліст у Нямеччыну

Марозам траскучым па хвоях
Наступная прыйдзе зіма.
Ці чуў ты, таварыш, пра тое,
Што нашае вёскі няма?
Яе падпалілі фашысты,
Пабілі старых і малых
На полі пажатым і чыстым,
Гарэлі ў далі хутары.
Увесь мазалісты прыбытак
Аграбілі немцы ў вясну.
Варожаю куляй прыбіты
Твой бацька на векі заснуў.
Я вырваўся з воўчае пасці,



Узяўшы напрамак у лес.
Грамлю гітлероўскія часці
На шошах, чыгунцы, сяле…
Я знаю — чытаеш газеты,
Што ў нас адбудова ідзе,
І думаеш можа аб гэтым,
Рабочы канчаючы дзень…
Пішы, як жывецца ў няволі…
Заводы і склады палі…
А сэрца, налітае болем,
Няхай па Радзіме баліць.

*Васіль Двоеў, 1943*

## Ён хацеў упрыгожыць Слонім



• *Леанід Богдан*

У апошні дзень красавіка 2017 года трагічна загінуў адзін з таленавітых людзей Слоніма — Леанід Богдан, якога ад нараджэння Бог надарыў талентам мастака.

У школе Лёня быў звычайным хлопчыкам, нават трохі сарамлівым. Але калі пачынаў нешта рабіць — майстраваць ці маляваць, — то атрымлівалася лепш за ўсіх школьнікаў і нават настаўнікаў.

Праўда, пасля школы лёс яго закінуў не ў мастацкае вучылішча, а ў чыгуначны тэхнікум. Аднак жаданай рамантыкі ў тэхнікуме і на чыгунцы ён не знайшоў. Таму хутка паступіў у Маскоўскі завочны народны ўніверсітэт мастацтваў. Вучыўся на факультэце жывапісу і графікі. Вучоба падабалася, Леанід шмат даведаўся новага і цікавага пра скульптуру. Таму пасля сесій і працы з радасцю браўся за гліну і пластылін, з якіх ляпіў знаёмых сяброў і суседзяў.

Скончыўшы ўніверсітэт, Леанід нікуды не паехаў, а назаўсёды звязаў свой лёс з родным Слонімам, які вельмі моцна любіў. Леанід хацеў, каб ягоны горад над Шчарай быў самым прыгожым у Беларусі і каб яго штогод наведвалі тысячы турыстаў з усіх краін свету.

У 1970–1980-х гадах Леанід Богдан працаваў у Слоніме на розных работах, але найбольш падабалася рабіць мастаком-афарміцелем у кінатэатры «Мір». Ён не толькі выконваў мастацкія працы ў кінатэатры, але сур'ёзна захапіўся скульптурай, а потым — і гісторыяй роднага краю, біяграфіямі яго знакамітых людзей. Ён стаў шмат чытаць, знаходзіць матэрыялы па гісторыі Слонімшчыны, Беларусі, па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. І, вядома ж, ствараць партрэты знакамітых людзей.

Першымі яго самастойнымі бюстамі былі партрэты касманаўта Юрыя Гагарына і паэта Валянціна Таўлая. Калі працаваў над бюстам Валянціна Таўлая — шмат перачытаў літаратуры пра яго, вершаў паэта. Нават кансультаваўся ў слонімскага пісьменніка Анатоля Іверса, які некалі сябраваў з Таўлаем. Менавіта ад Анатоля Іверса Леанід даведаўся пра гісторыю Слонімшчыны, пра дзейнасць у першай палове ХХ стагоддзя Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Пазней, у 1987 годзе, зрабіў і выдатны бюст Анатоля Іверса.

А потым слонімскі мастак зацікавіўся творчасцю Адама Міцкевіча. Перачытаў яго паэмы. А адна — «Гражына» — проста зачаравала скульптара. Пасля гэтага Леанід стварае скульптурны вобраз Гражыны — наваградскай князёўны. Лічу, гэта адна з найвыдатнейшых ягоных прац.

Дзесьці ў канцы 1980-х гадоў я і пазнаёміўся з Леанідам. Памятаю, быў час, калі ён на Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыцы так прыгожа аформіў дыскатэку, што гэта была адна з найлепшых дыскатэк па тым часе. А, напрыклад, у Слонімскім гарбыткамбінаце ён зрабіў цудоўны тэнісны корт. Ды і сам час ад часу любіў пагуляць у тэніс.

І ўсё ж мастацтва і скульптура ў ім проста жылі і перамагалі. Леанід стварае бюсты сваіх сяброў, пісьменнікаў, дзеячаў грамадскага руху 1920–1930-х гадоў. Ён вылівае іх з гіпсу і дорыць бясплатна не толькі сябрам і знаёмым, але і школам, бібліятэкам, музеям. Нават зрабіў мой бюст у 1999 годзе. Адзін асобнік падараваў мне, ён знаходзіцца ў маіх хатнім кабінеце.

Шчыра сябраваў Леанід Богдан з нашым земляком доктарам філалагічных навук, прафесарам Алегам Лойкам. І яго бюст таксама зрабіў.



Ён стварыў вялікі герб Слоніма. І дзясяткі маленькіх. Марыў вялікі герб Слоніма паставіць у цэнтры горада.



• *Скульптар Леанід Богдан працуе над бюстам Анатоля Іверса.1987 г.*

Леанід Богдан быў, як кажуць, майстрам на ўсе рукі. Сотні разоў бываючы ў яго майстэрні, я здзіўляўся яго апантанасці, майстэрству, фантазіі. Лёня быў сціплым чалавекам, не кожнаму ён мог расказаць пра свае творчыя планы, а тым больш паказаць, як ён працуе, шліфуе, перарабляе. З ім трэба было сябраваць доўга і шчыра, бо толькі тады ён мог па-сяброўску распавесці пра свае творчыя задумкі.

У яго майстэрні заўсёды ішоў творчы працэс. Шмат часу ён аддаў, працуючы над помнікам Статуту Вялікага Княства Літоўскага 1588 года. Лёня мне казаў, што ён мяркуе гэты помнік усталяваць у Слоніме ў цэнтры горада каля музея замест бюста арла, які там стаіць, бо той арол зусім не пасуе. На спецыяльным пастаменце, распавядаў Леанід, будзе ляжаць сам вялікі Статут. На Статуце — адціснутая далонь. Кожны слонімец ці госць горада зможа падысці да гэтага помніка-кніжкі, прачытаць яе і даведацца, што гэта Статут Вялікага Княства Літоўскага, гэта значыць — звод законаў нашай дзяржавы, помнік беларускай пісьменнасці, мовы і юрыдычнай думкі. Ён прыкладзе ў адціснутую далонь сваю, нібыта зложыць клятву перад Статутам у любові да сваёй Бацькаўшчыны.

Гэта дзякуючы Леаніду Богдану мы маем у Слоніме мемарыяльную шыльду, прысвечаную заснавальніку Слонімскага краязнаўчага музея Язэпу Стаброўскаму, якая прымацавана на будынку музея. Гэта Леанід зрабіў шыльду піянеру-герою Васю Крайняму. Гэта Леанід Богдан стварыў і прымацаваў на будынку Слонімскага драмтэатра шыльду, прысвечаную Міхалу Казіміру Агінскаму (1730–1800) — пачынальніку тэатральнага мастацтва на Слонімшчыне. І ўсё гэта Леанід Богдан зрабіў бясплатна і падараваў Слоніму.

Неяк Леанід паклікаў мяне ў майстэрню і паказаў сваю новую працу, прысвечаную Агінскім. Я ўбачыў: на барэльефе адлюстраваны слонімскі староста Міхал Казімір Агінскі, які сядзіць за піяніна, а побач стаіць са скрыпкай яго пляменнік Міхал Клеафас Агінскі, аўтар шматлікіх паланэзаў, у тым ліку і паланэз ля мінор «Развітанне з Радзімай». На крышцы піяніна напісаныя словы: «Слонім. Агінскія. Паланэз». А воддаль, нібы праз вакно, віднее стары Слонім з ягонымі архітэктурнымі храмамі XVIII–XIX стагоддзяў. Цудоўная задума і твор скульптара — яшчэ адзін помнік славутым Агінскім, лёс якіх быў звязаны і са старажытным горадам над Шчарай.

На вуліцы Савецкай у Слоніме захаваўся будынак другой паловы XVIII стагоддзя, пабудаваны архітэктарам Боем, які ён праектаваў пры палацы Міхала Казіміра Агінскага. У гэтым будынку была аўстэрыя (заезны дом). Ён сёння нагадвае слонімцам і гасцям горада пра Міхала Казіміра Агінскага. Некалі свой Слонім Агінскі ператварыў у «сядзібу музаў», вядомую ва ўсёй Еўропе, але сёння амаль забытую ў Беларусі. Слонімскі скульптар Леанід Богдан стварыў бюст Міхала Казіміра Агінскага. Ён марыў прымацаваць яго ў спецыяльнай арцы на былой аўстэрыі Агінскага, каб слонімцам і гасцям горада над Шчарай было бачна, хто з’яўляўся некалі яго гаспадаром.

Восенню 2016 года на вуліцы Опернай у Слоніме быў пастаўлены вялікі валун. На ім выбіты тэкст: «Замчышча» і гады: XI–XVIII стст. Гэта таксама работа Леаніда Богдана. Дарэчы, Слонімскі замак (замчышча) — назва старажытнага цэнтра Слоніма, а таксама шэрагу палацапаркавых комплексаў, пабудаваных на яго месцы ў XI–XVIII стагоддзях. Спачатку быў пабудаваны драўляны астрог, потым дзядзінец, а пазней — драўляны замак на высокім насыпе з падпорнай сценкай з вялікіх камянёў, які быў разбураны пасля 1506 года. У 1520 годзе замак быў перабудаваны ў невялікі драўляны палац з залай пасяджэнняў, дзе ў другой палове XVII стагоддзя адбываліся генеральныя сеймікі. Палац быў абнесены драўлянымі гароднямі з вежамі. Цяпер пра замчышча ў Слоніме будзе нагадваць вялікі валун. Гэты самы валун слонімцам будзе нагадваць і пра скульптара Леаніда Богдана.

Адной з апошняй нашых сумесных паездак на аўтамабілі Леаніда была вандроўка ў вёску Орлавічы на магілу Стаброўскіх. З намі разам паехалі яшчэ мастак Яўген Іваноў і грамадская актывістка Леанарда Рэўкоўская. Мы прыбралі магілы, запалілі запальнічкі, а Леанід, гледзячы на драўляныя крыжы, маўчаў. Ён нешта глыбока думаў, а потым сказаў: «Нельга, каб былі такія магілы Стаброўскіх. Іх трэба добраўпарадкаваць і паставіць сучасныя помнікі. Я зраблю іх праекты, а пасля будзем усе разам думаць пра помнікі. Ды і дарога сюды павінна быць вартая, дарога да Стаброўскіх». Мы — пагадзіліся. А па дарозе ў Слонім Леанід распавядаў пра свае новыя планы, найперш звязаныя з каналам Агінскім і з праектам па добраўпарадкаванні канала, удзел у якім ён ужо актыўна прымаў. Але трагічны лёс ўсе яго планы раптоўна перакрыжаваў. А яму было толькі 64 гады.

*Май 2017 г.*



## Лёс святара і настаўніка

Пра Іосіфа Ракевіча — былога настаўніка і праваслаўнага святара — мне аднойчы нагадаў былы настаўнік са Слоніма Мікалай Ракевіч. Мікалай Іванавіч прасіў напісаць пра яго добрае слоўка, бо Іосіф Ракевіч гэтага заслужыў. Параіў звярнуцца да яго дачкі Зоі Іосіфаўны Казук, якая жыве ў Слоніме.

Паслухаўшы прапанову старэйшага слонімца, я пачаў пошукі. Спачатку звярнуўся да Людмілы Антонаўны Клімовіч — роднай сястры нашага знакамітага земляка прафесара Алега Лойкі. Людміла Антонаўна некалі вучылася ў адным класе з Зояй Іосіфаўнай. Але Людміла Клімовіч мяне не вельмі парадавала. З яе слоў я даведаўся, што дачка Іосіфа Ракевіча зусім нічога не бачыць, яна страціла зрок. Таму пагутарыць з ёй не ўдасца. Тым не менш пошукі звестак пра Іосіфа Ракевіча працягваліся. І той сабраны ў Слоніме матэрыял і лёг у аснову майго артыкула.

Іосіф Ракевіч — сын Венядзікта — нарадзіўся 7 лістапада 1885 года ў вёсцы Угрынь (цяпер гэта Зэльвенскі раён) у даволі вялікай сям’і. Бацька Іосіфа быў прымаком, родам з-пад Азярніцы. Вельмі любіў зямлю і працаваць на ёй. Таму і сын таксама меў стараннасць да працы і вучобы. Ён скончыў настаўніцкую семінарыю ў Дзятлаве і быў накіраваны ў вёску Глоўсевічы, дзе працаваў настаўнікам у 1905 годзе. Хутка Іосіфа Ракевіча прызываюць у расійскае войска, ён ваюе ў Аўстрыі, а пасля 1914 года знаходзіцца ў бежанстве ў Саратаўскай вобласці Расіі. Там



• *Іосіф Ракевіч з сям’ёй. 1930-я гг.*

таксама ўладкоўваецца на працу настаўнікам.

Калі сям’я Ракевічаў вярнулася на Бацькаўшчыну, Слонімскі павет быў пад Польшчай. Іосіф Ракевіч пачаў працаваць рэгентам Галынкаўскай царквы, пасля быў псаломшчыкам, пэўны час вучыўся на святара. Да гэтага часу ён ужо ажаніўся, меў сваю хату ў Галынцы і дваіх дзяцей.

Калі прыйшлі першыя саветы, Іосіф Ракевіч зноў пачаў працаваць настаўнікам. Жыў ён добра, меў вялікую гаспадарку, таму да пачатку Другой сусветнай вайны за ім сачылі органы НКУС і хацелі ўсю сям’ю вывезці ў Сібір. Але яго ратавалі сябры. Ён стараўся дома не быць, а пастаянна мяняў месца свайго жыхарства. Жонка з дзецьмі жыла ў Галынцы, а потым яны пераехалі да мужа і бацькі ў Слонім. Толькі ў 1940 годзе Іосіф Ракевіч і яго сям’я памянялі ў Слоніме 12 кватэр. А калі пачалася вайна, то іх ніхто не чапаў, а сам гаспадар працаваў настаўнікам у пачатковай школе.

У 1946 годзе Ракевічы пабудавалі свой уласны дом на завулку Уз’яднання ў Слоніме, бо дом у Галынцы падчас вайны згарэў. У Слоніме і аселі назаўсёды Ракевічы. Іосіф Венядзіктавіч выкладаў у школах спевы, вёў хор, працаваў таксама ў школах у вёсках Разанаўшчына, Харашэвічы, Горка. Ён меў прыгожы барытон, умеў іграць на скрыпцы і гітары.

Падчас працы настаўнікам яму па-ранейшаму не давалі спакойна жыць, асабліва папракалі, што ён служыў у царкве. Былы загадчык Слонімскага раённага аддзела народнай адукацыі Цепін, які быў загадчыкам райана пасля 1944 года, часта здзекаваўся з настаўніка Ракевіча за тое, што ён да 1939 года быў дыяканам у царкве. Цепін не раз сустракаў яго словамі: «Зноў алілуя, алілуя, пакі, пакі, памолімся».



Слонімец Мікалай Ракевіч прыгадвае: «Мне пашчасціла некалькі гадоў працаваць разам з дачкою Іосіфа Ракевіча Зояй Іосіфаўнай і прысутнічаць на пахаванні яе бацькі дзесьці ў 1975 ці 1976 годзе. Зоя Іосіфаўна Ракевіч (па мужу Казук) усё жыццё выкладала родную мову і літаратуру».

## Успаміны першага рэдактара «Вольнай працы»

Першым рэдактарам слонімскай раённай газеты «Вольная праца» (цяпер «Слонімскі веснік») быў Іосіф Чарняўскі, які 26 верасня 1939 года выпусціў у свет яе першы нумар.

У другой палове 1980-х гадоў я пазнаёміўся з Іосіфам Антонавічам, шчыра з ім сябраваў, перапісваўся, некалькі разоў рабіў з ім інтэрв’ю. У маім хатнім архіве да сённяшніх дзён захоўваюцца яго лісты, паштоўкі, фотаздымкі, газеты з ягонымі публікацыямі. Гэта быў даволі шчыры чалавек, адкрыты, цікавы. Ён мне заўсёды казаў, што журналіст павінен і ў крытычных матэрыялах бачыць і добрае, нельга ўсё сячы з пляча. «Крытыка не павінна быць “бруднай”», — казаў заўсёды Іосіф Антонавіч.

У снежні 1988 года Іосіф Чарняўскі прыслаў мне свае ўспаміны з невялічкім лістом: «Добры дзень, паважаны Сяргей! Атрымаў ад Вас пісьмо. Дзякуй за яго, за добрыя пажаданні, за тое, што памятаеце пра мяне. Коратка пастараюся расказаць пра свой лёс, свой жыццёвы шлях, пра Слонімшчыну, якою яна мне запамятавалася. Жадаю Вам, юны таварыш Сяргей, усіх зямных благ. З павагаю — І. А. Чарняўскі. 12.01.88 г.».

Першага рэдактара слонімскай раённай газеты ўжо няма на гэтым свеце. Але я часта яго прыгадваю, пераглядаю і перачытваю яго лісты, артыкулы, успаміны. А гэты ўрывак з успамінаў Іосіфа Чарняўскага, які датычыць яго жыццёвай дзейнасці на Слонімшчыне, уключыў у сваю кнігу.

### З успамінаў Іосіфа Чарняўскага

Нарадзіўся я ў сялянскай сям'і на Палессі — у вёсцы Клівы Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці 27 верасня 1911 года. Самастойнае жыццё пачаў даволі рана, бо ў трынаццаць гадоў застаўся без бацькоў, таму падлеткам пачаў працаваць на лесанарыхтоўках. Вельмі хацеў вучыцца, таму ў 1924 годзе паступіў у пяты клас Бабчынскай сярэдняй школы з педагагічным ухілам і нават атрымліваў стыпендыю — 4 рублі ў месяц. За гэтыя грошы харчаваўся і вучыўся.

Пасля сямі класаў райкам камсамола накіраваў мяне на вучобу ў Гомельскі педагагічны тэхнікум. Вучыўся адзін год, бо ўстанову ліквідавалі, а мяне перавялі ў педтэхнікум у Рагачоў.

У 1931 годзе як актыўнага пазаштатнага карэспандэнта газеты мяне ўзялі на працу ў газету «Камунар». Праўда, працаваў я там нядоўга, бо быў накіраваны ў Мінск на курсы газетных работнікаў, якія былі створаны пры ЦК КП(б)Б. Пасля гэтых курсаў я стаў працаваць карэспандэнтам «Комсомольской правды» па Беларусі, а потым атрымаў пасаду загадчыка аддзела ў газеце «Чырвоная змена».

Напрыканцы 1933 года быў прызваны ў рады Чырвонай Арміі, два гады служыў на Далёкім Усходзе, спачатку кулямётчыкам, потым сакратаром камітэта УЛКСМ зборнага кулямётнага батальёна, а затым — сакратаром палкавой шматтыражкі.

Пасля заканчэння службы я зноў вярнуўся ў Мінск у «Чырвоную змену». А калі ў красавіку 1938 года на рускай мове была арганізавана газета для моладзі «Сталинская молодёжь» (цяпер гэта газета «Знамя юности»), мяне перавялі на працу ў рэдакцыю гэтай газеты на пасаду адказнага сакратара.

У верасні 1939 года ў рэдакцыю газеты «Сталинская молодёжь» патэлефанаваў інструктар ЦК КПБ нехта Дзехцяроў і сказаў, што Чарняўскі тэрмінова павінен з'явіцца ў Цэнтральны Камітэт. Там стваралася група журналістаў, якіх накіроўвалі на працу ў Заходнюю Беларусь. Мяне камандзіравалі ў Слонім стварыць і рэдагаваць раённую газету «Вольная праца».

18 верасня 1939 года я прыехаў у горад над Шчарай. А 19 верасня ў Слоніме было створана Часовае павятовае ўпраўленне, мэтай якога было навядзенне рэвалюцыйнага парадку ў горадзе і раёне. Яго першым старшынёў быў Мацвей Колатаў з Урала. А я — яго намеснікам, але найперш — адказным рэдактарам газеты «Вольная праца». Дапамагалі мне ў стварэнні газеты слонімскія паэты Анатоль Іверс (Іван Міско) і Алесь Сучок (Пётр Дабрыян). Гэта былі добрыя хлопцы, яны адразу ж паказалі сябе дбайнымі і працавітымі журналістамі. З цікавымі злабадзённымі вершамі ў газеце часта выступаў паэт Сяргей Новік-Пяюн.



Прыехаўшы ў Слонім, я адразу ўдасканаліў становішча з паліграфічнай базай. Тады ў горадзе былі чатыры рамесніцкія друкарні, уласна кажучы, гэта былі падсобныя майстэрні мясцовых гандляроў па выпуску розных квітанцый, пераплётаў кніг, сшыткаў, аб'яў, паведамленняў мясцовых улад. Знаходзіліся друкарні ў цёмных, паўпадвальных пакойчыках. Гаспадарамі гэтых друкарняў былі Ельян, Карпоўскі, Дзерачынскі…



• *Іосіф Чарняўскі ў Слоніме. 1940 г.*

На другі дзень савецкай улады ў Слоніме я арганізаваў сход, куды заклікаў рабочых і гаспадароў друкарняў. З імі разам вырашыў пытанні з паліграфічнай базай. Аказалася, што ў падвалах валяліся вялікія ўпакоўкі са старымі шрыфтамі, яшчэ з царскіх часоў. Рабочыя дасталі іх, разабралі па касах і праз пару дзён — 26 верасня ў Слоніме выйшаў першы нумар газеты «Вольная праца». Іван Міско, Пётр Дабрыян і іншыя мясцовыя актывісты бралі газету пачкамі і раздавалі людзям проста на вуліцах горада. Па «Вольную працу» у Слонім прыязджалі актывісты з Зэльвы, Дзярэчына, Быцені, Азярніцы, Казлоўшчыны, Жыровіч, Шылавічаў, Альбярціна, Міжэвічаў і з іншых вёсак і мястэчак. Бралі газету і адвозілі ў глыбінку Слонімскага павета. Першыя нумары «Вольнай працы» распавядалі пра савецкую ўладу, пра пераўтварэнні, якія тады адбываліся на тэрыторыі заходніх абласцей Беларусі.

Праз пэўны час усе прыватныя друкарні ў Слоніме аб'ядналі ў адну. Дзеля гэтага адвялі вялікае і прасторнае памяшканне, якое раней належала Саюзу штшэльцаў (стралкоў). Гэта памяшканне знаходзілася на вуліцы Студэнцкай у садзе. Мінскія друкары прыслалі вялікі запас новых



• *Іосіф Чарняўскі (справа) і Язэп Семяжон. Усходняя Прусія, вясна 1945 г.*

шрыфтоў і кас для іх. У рады газетчыкаў далучыліся маладыя журналісты Іван Канюшэўскі, Міхась Арцёменка, Майсей Гваздзюкевіч. «Вольная праца» стала выходзіць два разы на тыдзень. Павялічылася колькасць пазаштатных карэспандэнтаў. Рабіць газету цікавай, разнастайнай і злабадзённай дапамагалі Маеўскі з Альбярціна, Курыловіч з Міжэвічаў, Мікалай Міско з Чамяроў, Суржынская з Быцені, Калеснікаў з Дзярэчына, Хомскі са Слоніма і іншыя сябры рэдакцыі.

«Вольную працу» у Слоніме я рэдагаваў да 20 чэрвеня 1941 года. А за два дні да пачатку вайны мяне выклікалі на курсы перападрыхтоўкі афіцэрскага складу. Гэтыя курсы адбываліся ў Смаленску, куды я і паехаў…

## Аляксандр Талерчык — пра кнігу Барыса Данілюка

Мой зямляк і старэйшы сябра Барыс Данілюк (1923–2011) вельмі цікавіўся гісторыяй Слонімшчыны. Пасля Другой сусветнай вайны ён жыў у ЗША, быў актыўным грамадскім і рэлігійным дзеячам на эміграцыі. Мы шмат гадоў перапісваліся, сябравалі. Я часта яму дасылаў розныя выданні і паштоўкі, прысвечаныя слонімскай зямлі і яе людзям. А калі выйшла з друку кніга Аляксандра Талерчыка «Парэчча» (Гродна, 2002), спадар Данілюк вельмі прасіў знайсці гэту кнігу і выслаць для яго. Я хутка выканаў просьбу старэйшага земляка — выслаў яму ў ЗША «Парэчча». Чаму ён так хацеў мець гэта выданне? Ды таму, што яго бацька Хведар Данілюк (1887–1960) у верасні 1921 года прыняў пасвячэнне ў ярэі ад беластоцкага праваслаўнага святара Уладзіміра ў Гродзенскім катэдральным саборы. І сваю святарскую дзейнасць Хведар Данілюк пачаў у прыходзе вёскі Новадзявяткавічы. А потым служыў у прыходах






Слонімскага і Навагрудскага паветах, у тым ліку і ў вёсцы Парэчча на Слонімшчыне. У Парэччы Данілюк не толькі служыў у мясцовай царкве, але і пэўны час жыў там з усёй сям'ёй. Пра гэта яго сын Барыс Данілюк добра памятаў. Таму кніга пра амаль роднае Парэчча вельмі цікавіла малодшага Данілюка. Вядома ж, кнігу Барыс Данілюк атрымаў і вельмі дзякаваў мне, а таксама яе аўтару Аляксандру Талерчыку. Ён некалькі разоў яе ўважліва прачытаў, а потым выказаў думкі і меркаванні у сваіх успамінах «Азіраючыся расой выетымі вачыма», якія пабачылі свет ужо пасля смерці аўтара асобнай кнігай у мінскім выдавецтве «Лімарыўс» у 2012 годзе.

А цяпер ужо Аляксандр Талерчык вельмі хацеў набыць кнігу Барыса Данілюка і прачытаць яе, асабліва тыя мясціны, якія датычаць даваеннага Парэчча — роднай вёскі Аляксандра Талерчыка. Я купіў для яго гэтую кнігу і падараваў яму ў Гродне. Прачытаўшы ўспаміны Данілюка, Аляксандр Талерчык напісаў мне ліст, дзе выказаў усе свае ўласныя думкі наконт успамінаў, асабліва тых, якія датычаць Парэчча. Я іх нідзе не публікаваў і не згадваў пра гэты ліст. Але калі не стала яшчэ аднаго знакамітага майго земляка і сябра Аляксандра Талерчыка (1932–2016), я ўспомніў пра яго. І вырашыў уключыць у гэту кнігу асобныя моманты з ліста, найперш тыя, дзе распавядаецца пра Парэчча і людзей, якіх згадваў Барыс Данілюк. Ліст Аляксандра Талерчыка да мяне быў напісаны 2 кастрычніка 2012 года. Ён з'яўляецца своеасаблівай міні-рэцэнзіяй на кнігу ўспамінаў Данілюка «Азіраючыся расой выетымі вачыма». Аляксандр Талерчык пісаў: «…Выказваю табе вялікую падзяку за ўспаміны Барыса Данілюка, якія адкрылі мне многія таямніцы, якіх я не ведаў… Праўда, у яго ўспамінах добра дасталося і

мне з-за няправільных звестак. Праўда, і ён не менш за мяне грашыць у гэтай справе. Напрыклад, аб тым, што Антон Сокал-Кутылоўскі ніколі не быў святаром у Казлоўшчыне, а быў благачынным у Дзятлаве. Я аб тым, што Сокал-Кутылоўскі быў святаром у Казлоўшчыне, узяў у Сяргея Хмары. Гэты факт пацвярджае і В. Чарапіца на с. 113, дзе ён піша: “Священников на приходе (Казлоўшчынскім. — *А. Т.*) с 1919 г. до 1926 г. сменилось пять, а дело постройки храма стояло на мёртвой точке. И только весной 1926 года, после назначения в Казловщину настоятелем священника Антония Сокол-Кутыловского, всё в приходе изменилось… через 11 месяцев здесь вырос величественный храм…”.

Другое маё сцверджанне, што Ядвіга Шапавал была настаўніцай у Парэччы аж да пачатку вайны, Барыс Данілюк аспрэчвае тым, што ў пачатку 1936 ці 1937 года Я. Шапавал была пераведзена ў Вераб’евіцкую школу, але яна хутка зноў вярнулася ў Парэчча і я сам памятаю яе, калі 1 верасня 1939 года я пайшоў вучыцца ў першы клас польскай Парэцкай школы. Гэта пацвердзіў і мой аднакласнік па Слонімскай школе № 1 Анатоль Жывулька, які цяпер жыве ў Маскве. Ён на год раней за мяне вучыўся ў Парэцкай школе і гуляў з дзецьмі Я. Шапавал (яе называлі Шапаваліхай, яна была крыху гарбатая).

Трэцяе памылковае сцвярджэнне Б. Данілюка, што пры Парэцкай школе быў закладзены В. Кісялём гадавальнік сажанцаў на плошчы 300 кв. сажаняў, які пераводзіць Данілюк у сучасныя меры, як плошча 1,356 кв. м. Ён тут вельмі памыляецца, бо 300 кв. саж. (сажань = 2,13 м), гэта будзе 639 кв. м, альбо 0,0639 га. Гэта даволі вялікая пляцоўка, дзе, сапраўды, можа месціцца многа дрэў і кустоў (с. 132). Няправільна называе Раісай дачку парэцкага фельчара Талерчыка Аляксандра Пятровіча, з якой ён быў кумам у Тодара Селівончыка. На самай справе яе звалі Ніна. Пасля вайны гэтая прыгожая дзяўчына выйшла замуж за Харытончыка з суседняй вёскі Васілевічы. Бацька яе быў фельчарам. Яго прызвалі ў самаахову і забілі ў Гавенавічах. Пахавалі на заходняй частцы Ружанскіх могілках у Слоніме. На пахаванні 22 самаахоўцаў я прысутнічаў…

Наогул трэба сказаць, што Барыс Данілюк зрабіў вялікую і добрую справу, апісаўшы жыццё, як жыхароў вёскі Парэчча, так і дзейнасць і жыццё беларусаў у Слонімскім павеце ў міжваенны і ваенны час. Я не сустракаў такога поўнага і падрабязнага апісання гэтага жыцця.



Я апісваў жыццё Парэчча са слоў маёй маці і дзядзькі Якімовіча Аляксея, якому было больш за 90 гадоў, але ён меў цудоўную памяць. Усе жыхары Парэчча вельмі цёпла ўспаміналі святара Хведара Данілюка. Гэта пры ім былі казанні ў царкве, хай сабе і на беларускай трасянцы. Гэта пры ім, можа пры актыўным удзеле псаломшчыкаў, якіх змянілася ў той час да 4 чалавек, але развучвалі з царкоўнымі псалмамі беларускія песні. Гэта яны цеплілі ў сэрцах сялян народныя традыцыі. Бо пасля высылкі Хведара Данілюка з Парэчча туды быў прызначаны Барыс Буракоў, які належаў да руху “праваслаўных палякаў” і пачаў уводзіць у праваслаўнай царкве польскія элементы. Мая мама расказвала пра гэта, людзі вельмі прыглядаліся да Буракова, як ён хрысціцца — па-праваслаўнаму ці па-каталіцку. Потым у мае студэнцкія гады я сустрэўся з гэтым праваслаўным святаром у Баранавічах на хрысцінах дочкі майго студэнцкага сябра. Аб тым, што Барыс Буракоў належаў да руху “праваслаўных палякаў”, згадвае і Валерый Чарапіца на с. 192.

Мне не зусім падабаецца пазіцыя Барыса Данілюка як святара, які павінен быць больш чалавекалюбівым і талерантным. Ён нават, здаецца, неабгрунтавана крыўдзіць памяць свайго бацькі, якая засталася аб ім у парэцкіх вяскоўцаў. Ён не па-святарску адносіцца да В. Кісяля і С. Хмары, з якімі ў яго скаліся не сяброўскія адносіны пры жыцці… Але Бог яму суддзя.

Тым не менш я яшчэ раз хачу сказаць, што Барыс Данілюк зрабіў вялікую справу, што так падрабязна апісаў міжваеннае жыццё на Слонімшчыне. Бо яно раней неяк цьмяна і аднабакова апісвалася…»

## Слонімская кніга ў 1900–1939 гадах

Кнігадрукаванне ў Слоніме з’явілася ў канцы XVI — пачатку XVII стагоддзя, калі дзяржаўны і вайсковы дзеяч Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега (1557–1633) 20 ліпеня 1586 года атрымаў пажыццёва Слонімскае староства. На працягу амаль 47 гадоў Леў Сапега быў старостам слонімскім і пакінуў значны след на слонімскай зямлі. І, вядома ж, у выдавецкай справе. У Слоніме часоў канцлера Сапегі існавала вялікая бібліятэка і адна з самых вялікіх у Вялікім Княстве Літоўскім друкарняў. У ёй, як мяркуюць некаторыя даследчыкі, набіраўся вядомы на ўсю Еўропу Статут Вялікага Княства Літоўскага.

Хаця мы ўсе ведаем і чулі пра Жыровіцкае Евангелле XV стагоддзя, якое сёння захоўваецца ў цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі Навук Літвы. І хоць гэта рукапісны помнік, але ж ён паліграфічна багата аздоблены рознымі застаўкамі, мініяцюрамі з выявамі евангелістаў і шматлікімі ініцыяламі.

Вялікая друкарня існавала ў Слоніме ў «сядзібе музаў» Міхала Казіміра Агінскага ў другой палове XVIII стагоддзя. Першым друкаваным выданнем на лацінскай мове быў «Рэлігійны культ Брунона, патрона картузаў» (1777). На польскай і італьянскай мовах была надрукавана ў друкарні Агінскага «Кніжка для дзяцей, або Уяўленне пра прадметы, якія дзеці павінны вывучаць» (1779).

Працавалі друкарні на Гарадзеншчыне і ў XIX стагоддзі. У тым ліку і ў Слоніме. Гэта былі прыватныя друкарні, якія выконвалі розныя невялікія друкарскія заказы. Але гарадзенскія краязнаўцы і гісторыкі, якія пісалі і даследавалі гісторыю горада над Шчарай, у канцы XIX стагоддзя часцей за ўсё выдавалі кнігі ў гарадзенскіх і віленскіх дзяржаўных і прыватных друкарнях. Гэтыя кнігі былі напісаны і выдадзены на рускай мове. Напрыклад, Іван Раманоўскі ў 1898 годзе выдаў кнігу «Мінулае з жыцця горада Слоніма». Кніга налічвала 44 старонкі. Яна была выдадзена ў Гародні ў Губернскай друкарні. Гэтаксама кніга Івана Раманоўскага была надрукавана і ў прыватнай друкарні Дворжаца ў Вільні ў 1898 годзе. Увесь яе тэкст займаў 35 старонак.

Іван Раманоўскі напісаў на рускай мове і выдаў яшчэ дзве кнігі пра Слонім: «Становішча горада Слоніма ў Літоўскай дзяржаве» (Гародня, Губернская друкарня, 1895 г., 20 с.) і «Становішча горада Слоніма ў рэлігійных адносінах у Літве». Кніга гэта выдавалася і ў Гародні, і ў Вільні ў 1897 годзе.

У друкарні Губернскага кіраўніцтва ў Гародні ў 1891 годзе была выдадзена кніга М. Мілакоўскага на рускай мове «Апісанне горада Слоніма». У кнізе было 30 старонак.

У пачатку XX стагоддзя ў Слоніме працавалі чатыры прыватныя друкарні. Да пачатку Першай сусветнай вайны яны надрукавалі каля трох дзясяткаў кніг на рускай мове, у асноўным гэта былі розныя каталогі, статуты, справаздачы, падручнікі, даведнікі, даклады. Напрыклад, у паравой друкарні Шумаха была выдадзена «Сінхраністычная табліца па старажытнай гісторыі» А. Фохта для навучэнцаў мужчынскіх і жаночых навучальных устаноў, у друкарні Ельяна быў выдадзены «Перапіс сляпых Арэнбургскай губерні і Тургайскай вобласці». Здалёк, бачна, у Слоніме заказвалі выданні. У гэты час у прыватных слонімскіх друкарнях выдаваліся розныя брашуры, накшталт такіх, як «Устаў Слонімскага таварыства сельскай гаспадаркі» (Слонім, 1910), што налічваў 20 старонак, даклад І. Гаптарэўскага «Пяцігоддзе таварыства распаўсюджання асветы паміж жыхарамі г. Слоніма і яго павета» (Слонім, 1912), «Сістэматычны каталог вучнёўскай бібліятэкі Слонімскай жаночай гімназіі» (Слонім, 1912) і іншыя.



Выдаваліся ў слонімскіх прыватных друкарнях брашуры і кнігі не толькі на рускай мове, але і на польскай, нямецкай і ідыш. На вялікі жаль, да 1915 года ў Слоніме не выйшла ніводнай кнігі на беларускай мове, хаця ў гэты час на Слонімшчыне жылі два беларускія пісьменнікі — Кандрат Лейка (1860–1921) і Гальяш Леўчык (1880–1944). Праўда, Кандрата Лейку лёс з-за хваробы ног закінуў на Украіну, а Гальяш Леўчык часова жыў і ў Слоніме, і ў Варшаве. Але гэтыя таленавітыя літаратары ў першай палове XX стагоддзя актыўна друкаваліся ў «Нашай ніве», а ў 1912 г. у Вільні выдалі свае першыя кнігі. Асобнай маленькаю кніжачкай выйшла з друку п’еса Кандрата Лейкі «Снатворны мак», якую аўтар прысвяціў вясковым дзецям Слонімскага павета. Яна паклала пачатак беларускай нацыянальнай драматургіі для дзяцей. А Гальяш Леўчык выдае лацінкай свой першы зборнік вершаў «Чыжык беларускі».

Добра было наладжана выданне кніг на Слонімшчыне і пра Слонімшчыну ў 1920–1939 гадах. У асноўным гэтыя кнігі выдаваліся на польскай мове ў Слоніме і ў Жыровічах у прыватных друкарнях, а таксама ў іншых гарадах Другой Рэчы Паспалітай, найперш у Вільні.

У 1933 годзе ў Вільні ў прыватнай друкарні «Люкс» была надрукавана на польскай мове кніжачка 34-гадовага польскага музеязнаўца і гісторыка мастацтва Станіслава Лорэнца. Яна называлася «Слонімскія вандроўкі». І хоць кніга друкавалася ў Вільні, на тытульным лісце было напісана: «Слонім». Гэта выданне выйшла з друку дзякуючы Слонімскаму аддзелу Польскага краязнаўчага таварыства. Само выданне (39 старонак) было ўнікальнае для слонімцаў. Яно ўяўляла сабой кароткі даведнік па краязнаўстве тагачаснага Слонімскага павета. Аўтар цікава апісаў Слонім, Альбярцін, Дзярэчын, Ружаны, Мерачоўшчыну, Сынковічы, Дзятлава і Жыровічы. У кнізе апублікавана 11 фотаздымкаў.




У адной з прыватных друкарняў Слоніма ў 1934 годзе выдаецца і на польскай мове «Нарыс гісторыі горада Слоніма» слонімскага краязнаўца Готэля Гольдберга — яўрэйскага паэта, гісторыка, публіцыста, якога ў 1942 годзе расстралялі немцы. Пісаў пра Слонім аўтар з вялікай павагай і любоўю.

У 1935 годзе ў Слонімскай хрысціянскай друкарні пабачыла свет на польскай мове кніга Браніслава Александровіча «З мінулага Слоніма і зямлі Слонімскай». Гэта выданне (35 старонак) з'явілася прыкладам для ўсіх краязнаўцаў Слонімскага павета, як трэба самастойна даследаваць багатую гісторыю свайго рэгёна.




У 1930 і ў 1936 гадах у Слоніме і ў Вільні выйшлі з друку дзве кнігі на польскай мове Валяр'яна Харкевіча: «Год 1812 у павеце Слонімскім» (22 старонкі) і «Жыровічы — ласкаю крыніцы…» (49 старонак). А ў 1929 годзе ў Слоніме выдаецца і яшчэ адна кніга Валяр'яна Харкевіча на польскай мове «Смерць уніі касцельнай на Літве і Беларусі». Хаця сама кніга друкуецца ў Вільні, але на тытульным лісце пазначана — Слонім.

У 1924–1929 гадах у Жыровічах працавала дзяржаўная сельская і лясная сярэдняя школа. Выкладчык гэтай школы Генрык Эдэр у 1934 годзе напісаў і выдаў у Жыровічах на польскай мове падручнік «Батаніка лясная», а ў Слоніме ў хрысціянскай друкарні ў 1936 годзе яе перавыдаў другі раз.

У слонімскіх прыватных друкарнях у 1920–1930-х гадах кніг на беларускай мове не выдавалася, хаця выдаваць было што і каму. На выданне кніг не хапала фінансаў. Тым не менш у Вільні асобнымі выданнямі былі надрукаваны п'есы беларускага паэта Сяргея Новіка-Пеюна (1906–1994) З 1931 года ён жыў у Слоніме пад наглядам паліцыі. Шмат пісаў у віленскія выданні, супрацоўнічаў з дзіцячым часопісам



«Заранка». У Вільні і пабачылі свет яго п'ескі асобнымі кніжачкамі: «Цудоўная ноч» (1927), «Ёлка Дзеда Мароза» (1927), «Прадка над крыжам» (1939).




У Вільні ў 1928 годзе на шапірографе была выдадзена і паэма Валянціна Таўлая (1914–1947) «Непераможная». Ён жыў у вёсцы Рудаўка на Слонімшчыне. Вучыўся ў Слонімскай настаўніцкай семінарыі і ў Віленскай беларускай гімназіі, але за падпольную камсамольскую дзейнасць арыштоўваўся, высылаўся на Слонімшчыну, сядзеў у мясцовай турме.

Вялікай падзеяй у жыцці беларусаў Заходняй Беларусі ў 1927 годзе быў выхад «Хрэстаматыі новай беларускай літаратуры (ад 1905 года)» для старэйшых класаў беларускіх сярэдніх школ дзеяча беларускага нацыянальнага руху, паэта і літаратуразнаўца Ігната Дварчаніна (1985–1937) з вёскі Погіры Слонімскага павета. Кніга была выдадзена Беларускім выдавецкім таварыствам, яна налічвала ажно 495 старонак.




Пашанцавала выдаць у Вільні свае першыя паэтычныя кнігі беларускім паэтам Анатолю Іверсу (1912–1999) з вёскі Чамяры і Сяргею Хмары (1905–1992) з вёскі Казлоўшчыны Слонімскага павета. У 1939 годзе Анатоль Іверс выдаў свой першы зборнік вершаў «Песні на загонах», а Сяргей Хмара — зборнік вершаў «Жураўліным шляхам». Але падчас вайны і пасля вайны шляхі-дарогі гэтых паэтаў разышліся.

24 ліпеня 1924 года віленскі біскуп Юры Матулевіч выдаў дэкрэт аб утварэнні Альбярцінскай парафіі славяна-візантыйскага абраду. У траўні 1924 года ў Альбярцін, што быў каля Слоніма (цяпер мікрараён Слоніма. — *С. Ч.*), з'явіліся першыя айцы-езуіты і пачалі працу. Усходняя місія айцоў-езуітаў у Альбярціне праіснавала да 1942 года, а

потым яе ліквідавалі немцы. За гэты час на беларускай мове выйшла 34 нумары часопіса «Да Злучэньня», які выдаваў Антон Неманцэвіч. Больш падрабязна пра гэта распавядаецца ў кнізе «Гісторыя перыядычнага друку Слонімшчыны (1916–2016)», якую я напісаў і выдаў у 2016 годзе ў мінскім выдавецтве «Кнігазбор» разам з Сяргеем Яршом.

У 1932 годзе — выданне Таварыства Ісусава ў Альбярціне (кніга друкавалася ў Вільні ў друкарні імя Францыска Скарыны). Вінцук Адважны (айцец Язэп Германовіч) выдаў свой паэтычны твор «Унія на Палессі». Кіраўнік усходняй місіі айцоў-езуітаў у Альбярціне Уладзімір Пянткевіч напісаў у Альбярціне кнігу «Праўда пра Альбярцін» і на польскай мове надрукаваў яе ў Кракаве ў 1932 годзе.

Прыватныя друкарні Слоніма ў 1920–1930-х гадах актыўна друкавалі розныя заказы, у тым ліку і кнігі, але яны часцей за ўсё былі на польскай мове. Шмат заказаў рабілі вайскоўцы 79-га і 80-га польскіх пяхотных палкоў, якія да 1939 года дыслакаваліся ў Слоніме.

У верасні 1939 года ў Слонім прыйшла Чырвоная армія. Некаторыя гаспадары друкарняў пакінулі Слонім і выехалі на захад, а іншыя спынілі свой паліграфічны бізнес. Гэта былі Ельян, Дзерачынскі, Карпоўскі і іншыя. 18 верасня 1939 года ў Слонім прыехаў Іосіф Чарняўскі, якога прызначылі першым рэдактарам Слонімскай раённай газеты. Паліграфічнай базы ўжо не было. Па падвалах былых друкарняў Чарняўскі шукаў шрыфты, падабраў рабочых і журналістаў, і дзякуючы гэтаму 26 верасня 1939 года выпусціў першы нумар раённай газеты на беларускай мове «Вольная праца». А праз пэўны час усе прыватныя друкарні былі ліквідаваныя і закрытыя, а ўсё абсталяванне, шрыфты, фарбы, папера належалі ўжо адной друкарні, для якой адвялі вялікае і прасторнае памяшканне, што раней належала польскаму саюзу стралкоў. Мінскія друкары прыслалі ў Слонім вялікі запас новых шрыфтоў і кас для іх. Друкарня выдавала раённую газету, розныя афішы, даведкі, позвы і г. д. Кніг у Слонімскай раённай друкарні да 31 снежня 1939 года не выйшла ніводнай.



## Слонімскія фатографы пачатку XX стагоддзя




У 1900–1930-х гадах Слонім мог ганарыцца сваімі фатографамі, якія тут жылі і працавалі. Гэта дзякуючы ім нам засталіся ў спадчыну здымкі і паштоўкі Слоніма пачатку XX стагоддзя. Тады ў Слоніме свае фотамайстэрні мелі фатографы Б. Вайнштэйн, Б. Натковіч, Г. Браўн, С. Муркес, Т. Носек-Лейба, Я. Салавейчык, Х. Закройскі, О. Дзерачынскі, Ю. Шыманчык. За выключэннем Юзафа Шыманчыка, усе яны былі па нацыянальнасці яўрэі.

Вайскоўцаў 79 і 80 польскіх пяхотных палкоў, якія дыслакаваліся ў Слоніме ў 1920–1930-х гадах, у асноўным фатаграфавалі Барыс Вайнштэйн і Берка Натковіч. Гэта былі найбольш папулярныя фатографы ў Слоніме напачатку XX стагоддзя. Іх, а таксама майстэрні іншых фатографаў знаходзіліся амаль у цэнтры горада. Напрыклад, фотамайстэрня Вайнштэйна была на вуліцы Панятоўскага, 8 (цяпер вуліца Пушкіна). Фотамайстэрня С. Муркеса месцілася на вуліцы Сянкевіча, 44 (цяпер гэта Першамайская вуліца) і на Гандлёвай, 25. О. Дзерачынскі сваю фотамайстэрню трымаў на Другой Берагавой вуліцы, 6.




Напачатку XX стагоддзя ў Слоніме часта бываў з фотаапаратам знакаміты фатограф Ян Булгак (1876–1950), якога ў Польшчы называюць бацькам польскай фатаграфіі, у Літве — пачынальнікам літоўскай школы фатографаў, у Беларусі — майстрам краязнаўчага фота. Ян Булгак быў чалавекам шматлікіх талентаў — этнографам, фалькларыстам, пісьменнікам.








• *Юзаф Шыманчык з жонкай Аленай Ласько ў Слоніме. Канец 1930-х гг.*

У 1933 годзе Слонім наведаў амерыканскі фатограф Раман Вішняк, які зрабіў і захаваў для нашчадкаў шмат здымкаў Слоніма таго часу.

Цікава і тое, што перад Другой сусветнай вайной у Слоніме мелі фотаапараты і любілі фатаграфаваць людзей і горад над Шчарай беларускія паэты Гальяш Леўчык (Ілья Ляўковіч) і Сяргей Новік-Пяюн, якія тады тут жылі. Фатаграфаваў ваколіцы Слоніма і заснавальнік Слонімскага краязнаўчага музея Язэп Стаброўскі.

Шмат нам у спадчыну пакінуў здымкаў Слоніма 1930–1940-х гадоў Юзаф Шыманчык. Родам ён быў з Косава, але часта наведваў наш горад, а падчас вайны меў у горадзе сваю фоталабараторыю, якая ў канцы вайны падчас бамбёжкі была знішчана.



Юзафа Шыманчыка часта клікалі на вяселлі, каб на памяць зрабіць і захаваць здымак. Яго працы друкаваліся ў розных польскіх і беларускіх выданнях, а таксама ў нямецкіх падчас акупацыі.

Як склаўся лёс слонімскіх фатографаў пачатку ХХ стагоддзя Б. Вайнштэйна, Б. Натковіча, Г. Браўна, С. Муркеса, Т. Носек-Лейбы, Я. Салавейчыка, Х. Закройскага, О. Дзерачынскага невядома. Куды іх жыццёвы лёс закінуў падчас Другой сусветнай вайны ці пасля вайны — знайсці пакуль не ўдалося. Вядома толькі, што фатограф Якаў Салавейчык спачатку меў сваю фотамайстэрню ў Слоніме, потым пераехаў у Гродна. Былі ў яго фотамайстэрні і ў Нясвіжы, і ў Пружанах. Фотасправай займаліся і яго сын Восіп і ўнук Ісаак.

## Невядомы сцэнічны дыялог Міколы Арочкі

Са сваім знакамітым земляком, паэтам, празаікам, літаратуразнаўцам і перакладчыкам, доктарам філалагічных навук Міколам Арочкам (1930–2013) я шмат гадоў сябраваў, асабліва калі ён больш за 20 гадоў жыў у роднай вёсцы Вецявічы на Слонімшчыне. Гэта быў цікавы, надзвычай таленавіты і шчыры чалавек. Гутарыць з ім можна было бясконца. У апошнія гады свайго жыцця ён паціху пакідаў мне свае раней не апублікаваныя вершы, а потым, калі старэйшага земляка не стала, вершы і асабістыя дзённікавыя запісы мне перадала яго жонка Марыя Іванаўна. Усе яны чакаюць асобнага выдання.



• *Мікола і Марыя Арочкі. 1950-я гг.*

За сваё жыццё Мікола Арочка напісаў і выдаў шмат кніг паэзіі, літаратуразнаўчых даследаванняў і перакладаў. Яго першы зборнік паэзіі «Не ўсе лугі пакошаны…» выйшаў у свет у 1958 годзе. Затым пісаліся і выдаваліся новыя кнігі.

Ужо ў ранніх паэтычных радках аўтара абазначыліся матывы, вобразы, якія сталі, па сутнасці, галоўнымі ў яго паэзіі — гэта Бацькаўшчына, зямля, зерне, жыта, жыццё, родная мова, гісторыя… Паэтызацыя бацькоўскай зямлі і свету родных людзей пачалася з першых творчых крокаў і доўжылася да яго апошніх дзён. Мянялася жыццё, а разам з ім мяняўся ракурс яго спасціжэння, паглыбляліся каардынаты вымярэння. Важкім дасягненнем беларускай літаратуры сталі яго драматызаваныя паэмы «Курганне», «Крэва», «Каранацыя Міндоўга». З глыбінь XVI стагоддзя паэт стварыў светлы воблік беларускага першадрукара ў драматызаванай паэме «Судны дзень Скарыны». Усе сюжэтныя калізіі твора (рэальныя, бытавыя, сацыяльна-палітычныя падзеі) так ці інакш закранаюць самую істотную праблему, у якой сканцэнтравана сутнасць жыцця Скарыны, — ідэю асветы, культуры, нацыянальнага Адраджэння.

Шмат гадоў Мікола Арочка пражыў у родных Вецявічах. Бываючы там, я слухаў яго, ён чытаў мне свае творы, распавядаў пра планы. Цяжка прыгадаць сёння вёску, дзе б некалі шмат гадоў жыў доктар навук. А ён жыў, рухаўся, дыхаў, пісаў. Бывала, глядзеў на яго і неяк балюча станавілася ад таго, што лёс загнаў гэтага чалавека сюды, у глыбінку, на хутар жыцця. Не па добрай волі загнаў. На мясцовым пагосце даўно пахаваны два яго сыны, таму ён вярнуўся да сыноў, да землякоў, на бацькаўшчыну. А цяпер сам знайшоў там апошні свой супакой побач з сынамі.

Міколу Арочку заўсёды турбавалі адносіны ўлады да нашай роднай мовы, а ў апошнія гады ён за гэта моцна перажываў, шмат разважаў, думаў. Неяк аднойчы перадаў ён мне свой сцэнічны дыялог «Спрэчка Багушэвіча з нігілістам». «Можа калі і дзе надрукуеш», — казаў. Я выконваю яго просьбу і раней невядомы сцэнічны дыялог Міколы Арочкі публікую ў сваёй кнізе. Напісаны ён быў аўтарам у роднай вёсцы 31 ліпеня 1989 года.



## **Спрэчка Багушэвіча з нігілістам**

*Сцэнічны дыялог*

БАГУШЭВІЧ:

Не пакідайце беларускай сваёй мовы,
Каб не памерці! —
Вось мой запавет.

НІГІЛІСТ:

Каб не памерці?..
З дзіўнаю ўмовай
Вы гэты афарызм пусцілі у свет.
Хіба, сваёй адрокшыся гаворкі,
Памру я?.. Глупства!
Не памрэ народ.
Хутчэй, што стане ўсё наадварот:
Ёсць мовы першых велічынь —
Як зоркі!
Адна з іх ззяе побач нас… Чаму ж
Замест сваёй, з мужыцкасцю нязводнай,
Суседнюю навек не выбраць — роднай?

БАГУШЭВІЧ:

Суседнюю — уваж,
Сваю ж — не зруш!
Забудзем — значыць, суджана памерці…

НІГІЛІСТ:

Вы сэнс жыцця
Метафарай не мерце!

БАГУШЭВІЧ:

Ці можа дрэва жыць без каранёў?
А цела — без душы?

НІГІЛІСТ:

На мне праверце!

БАГУШЭВІЧ:

Зачахлае карэнне ёсць і ў пнёў!..
О, колькі пнёў,
Дзе душы ўкралі чэрці!

НІГІЛІСТ:

Выходзіць, што душа ўжо — не мая?
Ха-ха!.. Яна у кіпцях духа злога?
Ні ў Бога, ні ў чарцей не веру я,
Не веру ў край,
З якога робяць Бога!
Нашто трымацца мне за нейкі Лепель?
Радзіма там — дзе лепей!

БАГУШЭВІЧ:

Так слепакі плявузгалі спакон,
Не бачачы, як гібель падступае…
Калі ж на чалавека сходзіць скон,
Спачатку ў яго мову адбірае!..
Так і народ бязмоўны…
Ён сканае!
Бо мова — гэта вопратка душы,
Гісторыя яе вякамі ткала,
Калі пагоніч меч чужы крышыў,
Калі да помсты
Кроў ахвяр гукала,
Калі ад горкасці займала дых,
Калі ў руках мазолістых, худых
Пад плугам родная зямля спявала!..
Ды хіба мала ў нас мясцін святых,
Дзе наша людства з моваю ўтрывала!
Вось тыя ніткі —
З іх уток, аснова,
З іх вытканы дзівосы роднай мовы,
Адзенне непаўторнае душы!
Ёй без адзення —



Суджана прадонне…
Бяда, калі душа — не ў сваім Доме!
Яна — ці вяне ў нейкай сумнай стоме,
Як ліст, што нехта ўздумаў засушыць,
Ці ўжо сама раздвойваецца хіжа
І іншых на свой шнур,
Як лісце, ніжа…
Патрохі вучыцца сваіх душыць!
Спраўляе перамогу ці хаўтуры?
А мова — маці роднае культуры,
Літаратуры, песні — ад калыскі
Яна ў душы гадуе знакі, рыскі,
Каб годнасць утрываліць,
Каб віхуры
Не кінулі на злом, у чорны роў…

НІГІЛІСТ:

Ды хіба мала песень у сяброў?
Спявай, скачы,
Выкручвай фугі-шугі,
Чытай, натхняйся, не пужайся бур,
Бяры з суседніх скарбаў для паслугі,
Для ўласнае душы —
З чужых культур!
І збедненым не будзеш, будзе жыць,
Служыць, як іншыя, працоўным масам…
Жаваць і хлеб,
І нават булку з маслам!..

БАГУШЭВІЧ:

Бязродныя, абкрадзеныя часам!
Вам і няўцям,
Што ўдосталь не здабыць
Ні хлеба, ні да хлеба — там, дзе ніць
Духоўнасці радзіннай перацята,
Дзе мова ў занішчэнні… Там дабра

Не дасць —
Зямля бескаранёвых сэрцаў…
Там спее на галовы — гром з ядра!
Там узбуяе хутка марнатраўства,
Пазбавіцца зямля Гаспадара!..
Патрэбна да пары прыстасаванства.
Час не дазволіць вам раскашаваць,
А возьмецца вас першых крыжаваць!..
Я прадракаю — беды перажыць,
Трываліць першародныя высновы,
Душы сваёй адзенне —
Роднасць мовы,
Цудоўнай беларускай нашай мовы
Не пакідай, мой край,
Калі ты хочаш жыць!

*Мікола Арочка*

## Ліст жонкі Янкі Купалы

У музеі беларускай кнігі ў Слонімскай раённай бібліятэцы імя Якуба Коласа захоўваюцца кнігі з аўтографамі, лісты, фотаздымкі, граматы, альбомы з Вялікакракоцкай сельскай бібліятэкі імя Янкі Купалы, якая ўжо не існуе.

Справа ў тым, што ў 1927 годзе ў вёсцы Вялікая Кракотка вясковай моладдзю была створана і адкрыта сельская бібліятэка імя Янкі Купалы. Гэта была першая ўстанова культуры Заходняй Беларусі, якой было нададзена імя Песняра беларускага народа. Бібліятэка праіснавала 80 гадоў. Яна перажыла ўсе войны, рэпрэсіі, калектывізацыю, савецкі час, а вось сённяшні час знакамітая Купалаўская бібліятэка на Слонімшчыне перажыць не змагла — яе ліквідавалі. Бібліятэку ў Вялікай Кракотцы ў свой час наведалі амаль ўсе беларускія пісьменнікі, некалькі разоў у бібліятэцы гасціла жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч.

Пасля вайны бібліятэкай у Вялікай Кракотцы загадваў франтавік Аляксандр Жыткевіч. Я памятаю яго, некалькі разоў сустракаўся з ім у





• *Жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч у вёсцы Вялікая Кракотка на Слонімшчыне. 1950-я гг.*

Вялікай Кракотцы, калі разам з паэтам Анатолем Іверсам мы там гасцілі. Гэта быў шчыры беларус, апантаны бібліятэчнай справай чалавек, які любіў кнігі, творчасць Янкі Купалы, паважаў літаратараў і шмат з імі перапісваўся, запрашаў іх у госці, сустракаўся. Аляксандр Іванавіч моцна сябраваў і з жонкай Янкі Купалы Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч. Дзякуючы ёй у Вялікую Кракотку для бібліятэкі штодзень прыходзілі лісты, кнігі, альбомы, сувеніры ад пісьменнікаў і дзеячаў культуры. Перапісваўся Аляксандр Жыткевіч і з жонкай Янкі Купалы. Пакуль адшуканы толькі адзін ліст Уладзіславы Францаўны. Ён захоўваецца сёння ў музеі беларускай кнігі Слонімскай раённай бібліятэкі імя Якуба Коласа. Ліст заслужанай дзяячкі культуры Беларусі Уладзіславы Луцэвіч у Вялікую Кракотку быў напісаны да два месяцы да яе смерці. Ён быў напісаны на рускай мове. Публікуем яго ў перакладзе на беларускую мову.

*27.12.1959*

*Паважаны Аляксандр Іванавіч!*

*Вы не думайце, што я забылася пра Вас. Ад усяго сэрца дзякую за Вашу адданую вялікую працу па ўвекавечанні літаратурнай спадчыны Янкі Купалы. Я заўсёды адношуся з глыбокай павагай да Вас. Але ўжо другі год я зусім захварэла. І ўжо ў гэтым годзе прабыла некалькі месяцаў у бальніцы. Вось чаму я не пісала Вам. Стала поўнасцю інвалідам. Не хоча працаваць сэрца, ужо каля года я зусім не магу есці, стан вельмі сур'ёзны. Цяпер пачалі апухаць ногі. Вось якой я стала хворай. Ніколі не падумала б, што гэта са мной здарыцца. Буду вельмі рада, як вы, калі будзеце ў Мінску, наведаеце мяне. У лістападзе мы пераехалі ў новы будынак музея. Вельмі зручны, прыгожы, пабудаваны на тым месцы, дзе быў наш дом. Пачынаем афармляць новую экспазіцыю, пашыраем выставу да 11–12 пакояў. Уся бяда — гэта маё дрэннае здароўе. Зусім не магу хадзіць, а хочацца працаваць і ўсюды паглядзець самой. На днях вышлю Вам альбом нашай музейнай працы «Жыццё і творчасць Янкі Купалы». Раю вам выпісаць некалькі асобнікаў праз «Бібкалектар», потым яго не будзе. Вельмі прашу пісаць мне і не злавацца, калі я не часта Вам пішу. Прашу прыняць самыя шчырыя пажаданні з Новым годам. Жадаю Вам, Вашай сям'і і ўсім чытачам і жыхарам Вялікай Кракоткі добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцця і плённай працы на карысць нашай вялікай, дарагой савецкай радзімы. Моцна цісну Вашу руку. Заўжды паважлівая да Вас Ул. Луцэвіч. Адрас музея: вуліца Янкі Купалы, № 4. Тэлефон: 2–37–10 ці 2–33–86. Мой хатні тэлефон: 3–13–66.*

Уладзіславы Францаўны Луцэвіч не стала 25 лютага 1960 года. Захавалася і некалькі здымкаў, калі яна наведвала Вялікую Кракотку.

## Зніклі «Мадэрн» і «Мір»

У сакавіку 2016 года ў Слоніме закрылі апошні савецкі кінатэатр «Мір». Ён урачыста быў адкрыты на кастрычніцкія святы 1959 года. Праўда, пасля Другой сусветнай вайны да кінатэатра «Мір» у Слоніме дадаліся яшчэ два кінатэатры — «17 верасня» і «Зара». Кінатэатр «17 верасня» месціўся на вуліцы Пушкіна ў будынку сённяшняй падатковай



інспекцыі, а кінатэатр «Зара» — на вуліцы Мінскі тракт. Яшчэ кіно ў Слоніме паказвалі ў клубе газаправода на Брэсцкай вуліцы.



• *Так выглядаў кінатэатр «Мір» у Слоніме напачатку 1960-х гг.*

Па словах былога дырэктара гарадскіх кінатэатраў Слоніма Віктара Шчарбакова, які ўсё жыццё адпрацаваў на ніве слонімскага кіно, у 1950–1980-я гады ўсе кінатэатры горада выконвалі планы па наведванні гледачамі кінатэатраў. «Людзі вельмі актыўна і з радасцю хадзілі ў кіно. Напрыклад, кінатэатр "Мір" 6 разоў на дзень паказваў фільмы. Першы сеанс быў у 10 гадзін, апошні — у 21 гадзіну. А калі не хапала колькасці наведвання кінатэатраў гледачамі да месячнага плана, то прывозілі які-небудзь індыйскі фільм, і тады залы слонімскіх кінатэатраў былі поўныя, бо людзі ў савецкі час вельмі любілі індыйскія фільмы. Даволі часта слонімскія кінатэатры паказвалі і праводзілі розныя кіналекторыі для школьнікаў і настаўнікаў, дапаўняючы іх спецыяльнымі дакументальнымі і мастацкімі фільмамі. І ўсе з вялікай ахвотай наведвалі падобныя мерапрыемствы», — успамінае Віктар Шчарбакоў.



• *Віктар Шчарбакоў каля кінатэатра «Мір». 1960 г.*

У 1980-я гады пры кінатэатры «Мір» існаваў кінаклуб «Пра-

мень» для аматараў праблемных фільмаў. Яго задачай было — паказаць гледачам творы вядучых майстроў савецкага кіно, якія адзначаліся не весялосцю і камедыйнасцю, а глыбінёй і сур'ёзнасцю жыццёвых праблем, патрабавалі абмеркаванняў і разваг. Перад кінасеансамі ў кінатэатры выступалі кінаведы, а асобныя фільмы абмяркоўваліся з мэтай больш глыбокага разумення іх па форме і зместу. Спецыяльна для сяброў кінаклуба «Прамень» у Слонімскай друкарні выпускаліся абанементы, у якіх былі надрукаваныя тэмы і фільмы на некалькі месяцаў наперад.

Выпускала адміністрацыя кінатэатра «Мір» і праграмкі кіналекторыяў на самыя розныя тэмы. Напрыклад, «Салют, піянерыя!», «Закон і ты» і г. д.

Як прыгадвае Віктар Шчарбакоў, у кінатэатры «Мір» працавалі вельмі таленавітыя мастакі, якія афармлялі рэкламныя стэнды на фільмы. Гэтыя стэнды з малюнкамі і назвамі фільмаў вывешваліся каля ўсіх кінатэатраў горада. Вельмі прыгожа і па-мастацку прафесійна працаваў мастак Генадзь Зайцаў. Яму дапамагаў Канстанцін Бармашоў-Аляксееў.

Слонімскіх кінатэатраў «17 верасня» і «Зара» ў горадзе над Шчарай даўно ўжо няма. Знік непрыкметна і клуб газаправода. У ім цяпер адкрыта крама. Чарга напаткала і кінатэатр «Мір», які таксама развітаўся са сваімі гледачамі. Слонімцы цяпер могуць паглядзець кіно 2D і 3D у Цэнтры культуры на Чырвонаармейскай вуліцы.

Да ўсяго сказанага вышэй хочацца яшчэ нагадаць, што ў 1920–1930-х гадах у Слоніме быў прыватны кінатэатр «Мадэрн» Юзафа Ельяна. Ён праіснаваў да верасня 1939 года. Кінатэатр «Мадэрн» карыстаўся ў слонімцаў вялікай папулярнасцю, асабліва ў тых, хто меў грошы яго наведваць. У кінатэатры ў асноўным дэманстраваліся замежныя фільмы. Гэтыя фільмы вельмі хацелі паглядзець не толькі багатыя асобы Слоніма, але і бедныя людзі. Найперш кінатэатр быў цікавы дзецям і падлеткам. Вось як успамінае пра той час Барыс Данілюк у сваёй кнізе ўспамінаў «Азіраючыся расой выетымі вачыма» (Мінск, 2012. С.107): «Ванька Краўчук умеў адчыняць запасныя дзверы ў Ельянавым кіно, і мы з ім колькі разоў пралазілі туды ды бясплатна аглядалі новыя, найбольш амерыканскія фільмы».



## Слонімскі водаправод

Са «Спісу старажытных помнікаў Слоніма» за 1838 год, які захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гродне, відаць, што водаправод у Слоніме існаваў яшчэ пры гетмане Міхалу Казіміру Агінскім. А гэта канец XVIII стагоддзя (з 1775 да 1795 год).

Нагадаем трохі. Сцэна тэатра Агінскага была падзелена напалову: пярэдняя частка прызначалася для акцёраў, а задняя служыла ў выпадку неабходнасці для караблёў — там па сапраўднай вадзе лодкі выплывалі на сцэну. У гэтым выпадку другая частка сцэны праз сістэму трубаў, якая вяла да самых падмосткаў, запаўнялася вадой з сажалкі. Калі ж вада была непатрэбная, а па ходу дзеі п'есы, напрыклад, мела месца якая-небудзь бітва або маршы войск, то гэтая частка сцэны пакрывалася тоўстымі шчытамі, а з тытульнага яе боку адчынялася вялізная брама, праз якую ўрывалася кавалерыя…

Пра наяўнасць складаных водных прыстасаванняў сведчыць нехта А. Анджаеўскі, які наведаў Слонім у 1798 годзе і быў зачараваны замкамі і «пышным тэатрам, у якім была сапраўдная сажалка, што несла сапраўдныя караблі і ўяўляла сабой чароўную карціну». Вядома, што тэатр, акрамя таго, меў шэраг дасціпных тэхнічных прыстасаванняў — такіх, як фантаны з ёмістасцямі для вады, а таксама складанае тэхнічнае прыстасаванне для замены дэкарацый. У тэатры на сцэне знаходзілася мноства людзей, часта і з вялікай выдумкай мяняліся дэкарацыі, і, нарэшце, тут меўся барочны сцэнічны механізм, які дазваляў паказваць цэлыя эпізоды бітваў на сушы і на моры.

Пасля існавання тэатра на плошчы перад развалінамі былой кухні гетмана Агінскага, аказваецца, былі канавы, запоўненыя вадой, у якіх падавалася праз свінцовыя трубы вада з сажалкі, што знаходзілася на зямлі дамініканскага манастыра (з XIX стагоддзя). Свінцовыя трубы, як пішацца ў «Спісе старажытных помнікаў Слоніма» за 1838 год, яшчэ некалькі гадоў назад некаторымі жыхарамі Слоніма сакрэтна па кавалках выкопваліся на сваіх агародах.

Але толькі 17 жніўня 1895 года Слонімская гарадская дума прыняла на пасяджэнні пастанову аб зацвярджэнні праекту кантракта на будаўніцтва ў Слоніме водаправода. Кантракт прадугледжваў, што водаправод

правядзе купец Гірша Куніца, якому за гэта давалася права на працягу 40 гадоў браць плату па ¼ капейкі за вядро вады. Водаправод вёўся з гор, крынічная вада падавалася праз чыгунныя трубы.

Ёсць і такі факт. «Обзор Гродненской губернии» за 1897 год паведамляе: «Слонім забяспечваецца пітной вадой з крыніц, якія знаходзяцца на значнай вышыні, скуль, дзякуючы пракладзеным пад зямлёю трубам, уласным напорам вада праходзіць у вялікі вадаём, зманціраваны ў гарадскім садзе, з якога вада развозіцца ў бочках».

Такім чынам, узнікненне водаправода ў Слоніме трэба лічыць альбо з 1775 года, альбо з 1895 года.

## Лёс палаца Слізеняў

Некалі ў вёсцы Новадзявяткавічы (Новыя Дзявяткавічы) Слонімскага раёна быў вялікі палац. Яго ў сярэдзіне XIX стагоддзя пабудаваў Альфрэд Слізень у англійскім стылі. У 1860 годзе Новадзявяткавічы наведаў славуты беларускі мастак Напалеон Орда і пакінуў нам у спадчыну гэты палац намаляваны з тыльнага боку. Захаваўся і малюнак Конрада Чарноцкага, які друкаваўся ў ягонай кнізе *Historie o Mieleszkach* (Варшава, 2008). Вось і ўсё, што мы маем, каб уявіць, які гэта быў палац.

У гэту вёску я прыехаў надвячоркам. Праўда, сонца яшчэ было высока, таму на вясковых вуліцах і панадворках было людна. Недалёка ад месца, дзе быў палац, знаходзіцца вясковая крама, куды заўсёды спяшаюцца вяскоўцы: хто па хлеб, хто па віно, а хто па цыгарэты. Пытаюся ў вяскоўцаў, дзе быў палац Слізеняў? «Тут, недалёка, за магазінам», — адказваюць вяскоўцы.

За сельскай крамаю — віднеецца стадыён. Іду туды, фатаграфую побач кусты, дрэвы, розныя старыя пабудовы, якія трохі аднавілі, пафарбавалі. Пасярэдзіне стадыёна сустракаю мужчыну, які спяшаўся на рыбалку. Пазнаёміліся. Завуць яго Васіль Міхайлавіч.

— А куды знік палац Слізеняў? — пытаюся.

— Як куды? Яго ў канцы вайны спалілі партызаны. Мне бацька шмат разоў пра гэта распавядаў. Ды і ўсе вяскоўцы кажуць, што прыгожы палац Слізеняў спалілі яны.

— А навошта партызаны палілі палац, няўжо там сядзелі немцы?





• *Напалеон Орда. Палац Слізеняў. 1860 г.*

— Ніякіх там немцаў не было. Немцы палацаў і людзей не чапалі. А партызаны хацелі атрымаць медалі і ордэны, маўляў, за подзвіг, што адтуль выгналі немцаў.

— А вы скуль родам, Васіль Міхайлавіч? — пытаюся.

— Я родам з Новадзявяткавічаў, я памятаю сцены гэтага палацу. Памятаю, як у 1951 годзе сцены гэтыя білі трактары, экскаватары, бульдозеры цягалі іх. Палац быў моцны, прыгожы, арыгінальны. Цяпер нічога не засталося, толькі пару прыбудоваў. Калгас разбіраў палац для сваіх патрэбаў. Нават я дамоў прынёс некалькі кафляў, калі рабіў печку, то і іх паклаў. Яны адрозніваюцца ад звычайных савецкіх колерам, чуцьчуць цёмненькія па кутках. Зайдзіце да мяне ў хату і сфатаграфуйце, там жонка вам дазволіць.

— Ці былі падземныя хады пад палацам Слізеняў?

— Былі, там прайшло маё дзяцінства, мы пастаянна бавілі час у гэтых падземных хадах і пакоях. Праўда, нічога мы там не знаходзілі, хаця было шмат заваленых хадоў, даволі глыбокіх і доўгіх. Хадзіць

туды баяліся, бо там не хапала кіслароду. А вось тут, дзе мы стаім, быў іпадром Слізеняў. Бачыце, шмат часу прайшло, але нічога тут не расце, толькі трава. Слізені нечым гэта месца апрацавалі, і яно было толькі для коней і для конных скачак і спаборніцтваў.

Пасля гутаркі з Васілём Міхайлавічам я наведаў яго хату і сфатаграфаваў некалькі кафляў на печцы. А потым прайшоўся па вёсцы, дзе зрабіў яшчэ некалькі здымкаў мясцовага касцёла святых апосталаў Пятра і Паўла і званіцы.

*2016*

## Канверты са слонімскай тэматыкай

У спісе мастацкіх маркіраваных і немаркіраваных канвертаў сённяшняй Белпошты, а таксама пошты СССР траплялі канверты і са слонімскай тэматыкай. Праўда, сёння цяжка сказаць, калі выйшаў першы канверт, прысвечаны Слонімшчыне і яе людзям.

У маёй хатняй калекцыі ёсць канверт, прысвечаны Герою Савецкага Саюза Кузьму Гнідашу (1914–1944), які загінуў падчас Другой сусветнай вайны і пахаваны ў Слоніме ў брацкай магіле на вуліцы Пушкіна каля Вечнага агню. На канверце адлюстраваны партрэт Гнідаша і на ўкраінскай і рускай мовах напісана: «Герой Савецкага Саюза маёр К. С. Гнідаш. 1914–1944». Канверт быў надрукаваны на Пермскай фабрыцы Дзяржзнака (Расія) у 1985 годзе.

Падобны канверт, прысвечаны Гнідашу, быў выпушчаны РУП «Гроднааблпошта» і надрукаваны ў Гродне ў 2004 годзе на беларускай мове. Канверт выйшаў з друку да 60-годдзя вызвалення Слонімшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Але прозвішча Героя Савецкага Саюза напісана па-іншаму: Гнедаш Кузьма Савельевіч.

РУП «Гроднааблпошта» выпусціла ў 2004 годзе і яшчэ адзін канверт з выяваю Героя Савецкага Саюза Фёдара Міхайлавіча Сінічкіна, які пасля вайны жыў у Слоніме і быў нават старшынёй Слонімскага гарсавета з красавіка 1946 года па кастрычнік 1947 года.

У траўні 1989 года ў Слоніме адбыўся ўсесаюзны семінар педагогаў. Да гэтага мерапрыемства Слонімская друкарня выпусціла вялікі канверт-сувенір. На ім быў адлюстраваны калаж з помнікаў і будынкаў Слоніма.










У 1991 годзе пошта СССР на Пермскай фабрыцы Дзяржзнака надрукавала канверт з гербамі беларускіх гарадоў XVI–XIX стагоддзяў: Ліды, Шклова, Мсціслаўля, Слуцка, Крычава і Слоніма. Канверт быў выпушчаны на дзвюх мовах: беларускай і рускай.

У 2002 годзе Белпоштай быў выдадзены юбілейны канверт «Слоніму 750 гадоў». На ім адлюстраваны будынак 1905 года, які месціцца на вуліцы Янкі Купалы, і герб горада. Усяго такіх канвертаў было выпушчана 103 тысячы 200 штук.

Сярод канвертаў першага дня выйшаў і канверт з гербам Слоніма і з выявай Свята-Троіцкага сабора. Разам з канвертам з'явілася і паштовая марка з гербам Слоніма. Гашэнне канверта і маркі адбылося 20 студзеня 2004 года ў Слоніме.

Цікавым атрымаўся і канверт, прысвечаны гісторыі беларускай пошты. На канверце змешчаны стары будынак слонімскай пошты і шыльда (эмблема) Слонімскай паштовай станцыі XVIII стагоддзя. Гэты канверт выйшаў накладам 100 тысяч асобнікаў.

У 2007 годзе Слонімская друкарня накладам 500 асобнікаў надрукавала канверт, прысвечаны 755-годдзю з таго часу, калі Слонім згад-




ваецца ў Іпацьеўскім летапісе. На канверце адлюстраваны будынак Слонімскага райвыканкама, герб горада і тэкст: «Слонім 755».

У 2014 годзе ў Слоніме адбыўся Гродзенскі абласны фестываль-кірмаш «Дажынкі-2014». Да гэтай падзеі былі выпушчаны ажно тры канверты. На адным канверце адлюстраваны два фотаздымкі, а таксама герб Слоніма з каласамі і хлебам. На канверце чамусьці на рускай мове напісаны словы: «Слоним. Дожинки-2014», хаця ўсе астатнія звесткі надрукаваны па-беларуску. Канверт выпускала мінскае ААТ «Фармат-Маркет» па заказе арганізатараў Дажынак у Слоніме. Дзіўна ад усяго гэтага! Бо падобныя выданні, прысвечаныя Дажынкам у Беларусі, заўсёды выдаваліся па-беларуску.

Другі канверт, прысвечаны слонімскім Дажынкам, цалкам быў надрукаваны па-беларуску. І трэці канверт да слонімскіх Дажынак, па заказе Слонімскага райвыканкама, з’явіўся ў Слонімскай друкарні. Гэта прыгожае выданне з эмблемай фестывалю, беларускім арнаментам і зваротным адрасам Слонімскага райвыканкама. Канверт выйшаў з друку разам з праграмкай фестывалю. Наклад яго быў 600 асобнікаў.

У канцы 1990-х гадоў свой уласны фірменны канверт мела Слонімская камвольна-прадзільная фабрыка. На ім на месцы зваротнага адрасу апублікаваны эмблема фабрыкі і адрас прадпрыемства.

Незвычайны канверт у 2004 годзе надрукавала РУП «Гроднааблпошта». На канверце змешчаны малюнак слонімскай школьніцы Наталлі Панчук, вучаніцы СШ № 10 г. Слоніма. Гэты малюнак школьніца некалі дасылала на конкурс дзіцячага малюнка і ён, відаць, быў сярод лепшых. Канверт выйшаў з друку накладам 3 тысячы асобнікаў.

Выдаваліся і канверты, прысвечаныя знакамітым людзям Слонімшчыны ці тым асобам, лёс якіх быў звязаны са слонімскай зямлёй.

Да 125-годдзя з дня нараджэння беларускага паэта, мастака, калекцыянера, публіцыста са Слоніма Гальяша Леўчыка (1880–1944) Белпоштай у 2005 годзе таксама быў выпушчаны канверт.



Канверт, прысвечаны 100-гадоваму юбілею паэта і празаіка Сяргея Новіка-Пеюна (1906–1994), Белпошта выпусціла ў 2006 годзе накладам 50 тысяч асобнікаў.

У Слоніме Сяргей Новік-Пяюн разам з жонкай Людмілай у 1938–1939 гадах выдаваў польскамоўную газету *Gazeta Słonimska*. Таксама ён пэўны час жыў у Слоніме і падчас Другой сусветнай вайны. Землякі ведаюць паэта і як аўтара слонімскага вальса «Над Шчарай» .

Да 450-годдзя з дня нараджэння палітычнага, грамадскага і ваеннага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага Льва Сапегі (1557–1633) Белпошта выдала канверт у 2007 годзе накладам 101 тысяча экзэмпляраў.

З 1586 года і да канца жыцця Сапега быў слонімскім старостам і шмат увагі надаваў нашаму гораду, які ператварыўся пры ім у важны культурны, прамысловы і палітычны цэнтр княства. Побач з замкам на беразе Шчары канцлер Сапега ўзвёў мураваны палац, дзе са студзеня 1597 года праходзілі генеральныя сеймікі Вялікага Княства Літоўскага. У слонімскім замку знаходзілася і добрая бібліятэка, архіў, творы мастацтва. Леў Сапега добраўпарадкаваў у Слоніме вуліцы, масты, дарогі, пабудаваў шмат аўстэрый. Ён адкрыў новыя кірмашы, прамысловыя мануфактуры, будаваў адміністратыўныя і гаспадарчыя будынкі.

Пабачыў свет і канверт да 100-годдзя з дня нараджэння беларускага паэта Валянціна Таўлая (1914–1947). Маленства Валянціна Таўлая прайшло на Слонімшчыне ў вёсцы Рудаўка. Тут ён атрымаў першую адукацыю, тут з сябрамі прымаў удзел у грамадска-палітычнай дзейнасці. Канверт адметны яшчэ і тым, што на другім яго баку апублікавана кароткая біяграфія Валянціна Таўлая.

## Слонімшчына ў беларускай паэзіі

*Прадмова да кнігі «Слонімскія настроі»*
*(Мінск: Кнігазбор, 2016)*

Слонімшчыне пашанцавала. Пра яе заўсёды пісалі і пішуць беларускія паэты. Ёй прысвячаюць вершы, паэмы, балады, у творах адлюстроўваюць гісторыю слонімскай зямлі, апяваюць знакамітых слонімцаў, помнікі, падзеі. Прыйшоў час сабраць пад адну вокладку лепшае з напісанага. Так атрымалася гэта паэтычная кніга з назвай «Слонімскія настроі».

Паэтычную кнігу пра Слонімшчыну склалі не толькі вершы паэтаў, якія жывуць на Слонімшчыне, але і творы аўтараў з розных іншых куткоў Беларусі, а таксама творы тых паэтаў, якіх ужо няма сярод нас. Найперш гэта вершы і ўрыўкі з паэм Алега Лойкі, Міколы Арочкі, Анатоля Іверса, Ларысы Геніюш, Івана Сяргейчыка, Алеся Сучка, Васіля Супруна, Івана Чыгрына, Віктара Шымука, Сяргея Новіка-Пеюна і іншых.

Бадай што ніхто з беларускіх паэтаў не прысвяціў столькі вершаў свайму роднаму гораду, бацькоўскаму кутку і землякам, як Алег Лойка. Нават Рыгор Барадулін разам з Еўдакіяй Лось і Петрусём Броўкам не напісалі столькі паэтычных радкоў пра сваю Ушаччыну, колькі адзін Алег Лойка пра слынны і старажытны Слонім і Слонімшчыну з іх прыродай, працавітымі і мужнымі людзьмі, багатай гістарычнай спадчынай.

Паэму «Посах душы» ён прысвяціў Жыровічам. Вёска Жыровічы знаходзіцца кіламетраў за дзесяць ад Слоніма. Цяпер тут дзейнічаюць праваслаўныя духоўныя акадэмія і семінарыя. Але Жыровічы вядомы яшчэ тым, што тут у XVI стагоддзі быў заснаваны манастыр базыліян з цэрквамі і семінарыяй. І сёння Жыровічы — гэта беларуская праваслаўная Мека. Сюды з усіх куткоў свету спяшаюцца вернікі, спяшаюцца да жыровіцкай святыні з комплексам храмавых і манастырскіх пабудоў, што захаваліся да нашых дзён. Жыровіцкая святыня цікава не толькі як унікальны праваслаўны рэлігійны асяродак, але і як помнік архітэктуры і гісторыі, як сімвал складанага і нялёгкага лёсу беларусаў. А побач з Жыровічамі — струменіць святая крыніца. Кожны, хто бывае ў Жыровічах, абавязкова набірае з сабою вады з гэтай крыніцы. Алег Лойка з крыніцы і пачынае сваю жыровіцкую паэму:

Стаяла ў лесе крыніца,
А ў крыніцы — вадзіца,
Над вадзіцай — груша,
Да грушы — душою рушу…

Паводле народнай легенды, у 1470 годзе на лясной дзікай грушы пастушкі знайшлі абразок. Абразок яны занеслі ў маёнтак Аляксандру Солтану. На тым святым месцы пабудавалі цэркаўку. А калі здарыўся пажар і цэркаўка згарэла, дзіўны абразок з'явіўся на камені недалёка ад крыніцы. На тым месцы быў пабудаваны новы храм. Цяпер там узвышаецца Яўленская царква. А абразок Жыровіцкай Божай Маці зберагаецца ва Успенскім саборы.



Алег Лойка ў сваёй паэме апісаў гісторыю жыровіцкай святыні, склаў гімн Жыровічам. У абліччы Жыровіцкай Божай Маці, як піша Георгій Сіненка ў сваёй кнізе «Насуперак канону» (Мінск, 1997. С. 407–408), «праглядваецца ідэал беларускай жанчыны, які ўвабраў у сябе самыя прыцягальныя рысы нацыянальнага характару. Гэта не строгае аблічча святой Прамаці, якое глядзіць з іконы і заклікае да малітвы і пакаяння, а жывы вобраз беларускай жанчыны, азораны святлом красы і святасці, гэта — "Радзімы дух непарушны", "Млечны наш Шлях прарочы!.." — пуцяводная зорка ў духоўным станаўленні і адраджэнні».

Наогул у зборнік «Слонімскія настроі» ўвайшло вельмі шмат вершаў пра Жыровічы. Найперш, гэта радкі Ларысы Геніюш. Упершыню Ларыса, яшчэ Міклашэвіч, даведалася пра Жыровічы, калі яе родны брат Расціслаў вучыўся ў Жыровіцкай сельскагаспадарчай школе. Гэта быў, як згадвае ў сваёй «Споведзі» Ларыса Геніюш, высокі, прыгожы і паслухмяны хлопец. Пазней ён загіне на фронце Другой сусветнай вайны. Паэтка прысвяціць яму некалькі сваіх вершаў.

Дзед Ларысы Геніюш Павел Міклашэвіч быў родам з Крынак з Беласточчыны. Ён ажаніўся ў 18 гадоў з 16-гадовай Марфай з вёскі Чамяры Слонімскага павета. Юная Ларыса вельмі часта бывала ў Чамярах, якія побач са Слонімам. Ну а быць у бабулінай вёсцы і не завітаць у Жыровічы быў бы для яе грэх. Таму дзяўчынка разам з бабуляй Марфай і з маці спяшаліся на вялікія святы ў Жыровічы.

Ці не Успенскі сабор і Крыжаўздвіжанская царква натхнялі паэтку на вершы, многія з якіх прысвечаны рэлігійным падзеям, а духоўнасць скразною лініяй праходзіць праз яе паэзію. У сваіх вершах паэтка пастаянна звяртаецца да Бога, просіць у яго дапамогі, благаслаўлення, дазволу.

Пра Жыровічы і жыровіцкую крыніцу напісаны цудоўныя радкі Зніча, Алеся Клышкі, Таццяны Трафімчык, Міхася Скоблы.

У зборніку надрукаваны ўрыўкі з яшчэ адной паэмы Алега Лойкі «На залатым пераэове», прысвечанай слонімскай зямлі.

Паэма своеасаблівая і арыгінальная. Паэт едзе ў электрычцы з Зэльвы да Баранавічаў. І апісвае тыя станцыя, якія праязджае. Згадвае гісторыю станцый, асабліва слонімскіх, людзей, якія там жылі ці жывуць, падзеі, якія там адбываліся. У раздзеле «На Азярніцкім паўстанку» Алег

Лойка вёску Азярніца называе сталіцай, бо тут жыла ягоная сястрыца, а ў Грынках «прысела бульба — зеляніцца качкай, іду я з маці, маці ідзе з гачкай». Пасля Грынкоў — Чамяры, дзе жыў паэт і партызан Анатоль Іверс, а за Чамярамі адразу пачынаецца Слонім, пасля — Альбярцін і г. д.

У 2002 годзе Алег Лойка напісаў і шчымлівую паэму «Плач зямлі Слонімскай», якая ўвайшла ў яго паэтычны зборнік «Плач зямлі» (Мінск, 2004). Рэфрэнам праз усю паэму праходзяць радкі паэта:

Нікому ніколі не дадзена знаць,
Дзе нарадзіцца, дзе — сканаць.
Ды ведаю я, знаю,
Кім, дзе, калі сканаю,
Любячы край свой родны,
Што гіне беззваротна.
Ды ў ім, любым і лядачым,
Не ўзняць не магу галаву:
Пакуль жыву, плачу,
Плачу, пакуль жыву…

Алег Лойка быў і застаўся паэтам народна-слонімскім. Ён найбольш зразумелы нам, слонімцам. На Слонімшчыне яго ведаюць усе, нават тыя, хто ніколі ў жыцці не чытаў вершаў, не сустракаўся з ім пры жыцці. У кожнай вёсцы на Слонімшчыне ў яго ёсць сваякі і сябры. Пра лёс кожнага земляка Алег Антонавіч ведаў усё, мог суткамі распавядаць жыццёвыя гісторыі. І гэтыя гісторыі розныя: трагічныя, радасныя, шчаслівыя, смешныя. Паэма «Плач зямлі Слонімскай» — своеасаблівая гістарычная энцыклапедыя слонімскіх вёсак і яе жыхароў.

Наогул у вершах беларускіх паэтаў вельмі прыгожа і шырока апеты вёскі Слонімшчыны, апеты па-рознаму: і весела, і шчыра, і трагічна, і цёпла, і па-вясковаму неяк чулліва. Найбольш паэтычных радкоў дасталося Жыровічам, Чамярам, Вялікай Кракотцы, Хадзявічам, Вераб’евічам, Сакалову, Едначам, Шыганам, Востраву і іншым.

На Чырвонаармейскай вуліцы (былой 3 Мая) у Слоніме да Другой сусветнай вайны ў невялікай хатцы жыў слынны беларускі паэт Гальяш Леўчык (1880–1943). Да яго ў 1939 годзе, едучы з Беластока ў Мінск, заязджаў Янка Купала. Ён, дарэчы, быў рэдактарам першай кніжкі



Гальяша Леўчыка «Чыжык беларускі» (Вільня, 1912). Старыя сябры сустрэліся, паабедалі ў Першым беларускім рэстаране, і Купала на сваім «Шэўрале» паехаў па вуліцы Маставой на Мінск. Цяпер вуліца Маставая ў Слоніме носіць імя Янкі Купалы. І Гальяшу Леўчыку, і Янку Купалу, і Агінскім, і Сапегам, і Наталлі Арсенневай, і Уладзіміру Бялько, і Сяргею Дарожнаму, і генералу Яўгену Леашэню, і многім іншых асобам, лёс якіх быў звязаны са Слонімшчынай, прысвечаны паэтычныя радкі ў гэтым зборніку.

Родны Слонім, рэчкі Шчара, Іса, Валобрынка, Бяздоннае возера, а таксама вуліцы горада гняздзяцца ў многіх вершах беларускіх паэтаў. Слонімшчына ва ўяўленні і выяве паэтаў у кожным вершы заўсёды раствараецца ў прыродзе, зліваецца ў гістарычных і экалагічных усведамленнях аўтараў. Гэта вершы шчырыя, добрыя, запамінальныя. А інакш паэты не пісалі б пра спрадвечны горад над Шчарай…

*2016*

## Імянны паказнік

## Змест



**Чыгрын, С.**

Ч-11 Слонімскія гісторыі : Людзі. Падзеі. Выданні / Сяргей Чыгрын. — Мінск : Кнігазбор, 2017. — 100 с.
ISBN 978-985-7180-46-2.

У новую кнігу пісьменніка, краязнаўца, гісторыка і журналіста Сяргея Чыгрына ўвайшлі артыкулы, прысвечаныя гісторыі Слонімшчыны, яе людзям і падзеям. Артыкулы былі напісаны аўтарам у апошнія два гады.

**УДК 821.161.3.09**
**ББК 83.3(4Беи)**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Чыгрын** Сяргей Мікалаевіч

**Слонімскія гісторыі**

*Людзі. Падзеі. Выданні*

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Віктар Іваноў
Набор Сяргея Чыгрына
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Карэктар Віктар Іваноў

Падпісана да друку 28.09.2017. Фармат 60×84/16.
Папера афсетная. Рызаграфія. Ум. друк. арк. 5,83. Ул.-выд. арк. 3,74.
Наклад 60 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 01.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.